*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*Францішак БАГУШЭВІЧ*




# НАША СЛОВА

Штотыднёвая газета (Выходзіць з сакавіка 1990 г.) | № 5 (217) | 1 лютага 1995 г. | Кошт — 100 рублёў

## ПОСТУП ТЫДНЯ



○ **31 СТУДЗЕНЯ Ў ДОМЕ ЛІТАРАТАРА АДБЫЎСЯ «КРУГЛЫ СТОЛ», ПРЫСВЕЧАНЫ 5-ГОДДЗЮ З ДНЯ ПРЫНЯЦЦЯ ЗАКОНА АБ МОВАХ**. Яго арганізавала і правяло Таварыства беларускай мовы імя Ф.Скарыны. На пасяджэнні прысутнічалі прадстаўнікі Камісій Вярхоўнага Савета, міністэрстваў, палітычных і грамадскіх арганізацый. Падрабязныя матэрыялы з «круглага стала» будуць змешчаны ў «Нашым слове» ў бліжэйшым нумары.

○ ***У РЭСПУБЛІКАНСКІМ ДОМЕ НАСТАЎНІКА** Менская гарадская рада ТБМ імя Ф.Скарыны і грамадска-культурны клуб «Спадчына» правялі ўрачыстую вечарыну, прысвечаную 5-годдзю з дня прыняцця Закона аб мовах.*

○ **У МЕНСКУ З АФІЦЫЙНЫМ ВІЗІТАМ ЗНАХОДЗІЎСЯ МІНІСТР ЗАМЕЖНЫХ СПРАЎ РАСІЙСКАЙ ФЕДЭРАЦЫІ АНДРЭЙ КОЗЫРАЎ**. У праграму двухдзённага візіту ўвайшлі сустрэчы і перамовы з Прэзідэнтам Беларусі Аляксандрам Лукашэнкам, Старшынёй Вярхоўнага Савета Мечыславам Грыбам, міністрам замежных спраў Беларусі Уладзімірам Сянько, выканаўчым сакратаром СНД Іванам Каратчэняй, кіраўніком урада Міхаілам Чыгіром.

○ ***У ДОМЕ ЛІТАРАТАРА АДБЫЛАСЯ СУСТРЭЧА МІНІСТРА ЗАМЕЖНЫХ СПРАЎ РАСІЙСКАЙ ФЕДЭРАЦЫІ АНДРЭЯ КОЗЫРАВА З ПРАДСТАЎНІКАМІ БЕЛАРУСКАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ.** Па ўсім было бачна, што гаспадзін Козыраў не чакаў такога дыялога, якім ён атрымаўся. З залы прагучалі словы: «Прыйшоў час перастаць гаварыць пра рускіх і беларусаў у катэгорыі братоў і сясцёр... Ёсць іншае добрае паняцце — суседзі».*

○ **ВЯРХОЎНЫ САВЕТ ЗАЦВЕРДЗІЎ РЭСПУБЛІКАНСКІ БЮДЖЭТ НА 1995 ГОД.** Даходная яго частка складае 13 069 256 млн.рублёў, а расходная — 15 740 331 млн. рублёў. На культуру выдаткоўваецца крыху больш за 1,5 працэнта ад агульнай сумы бюджэту. Малавата будзе.

○ ***БОЛЬШ ЯК 80 ДЭПУТАТАЎ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА ПАСТАВІЛІ СВАЕ ПОДПІСЫ** пад зваротам у Канстытуцыйны суд у абарону свабоды прэсы.*

○ **У ДОМЕ ЛІТАРАТАРА ПРАЙШЛА ПРЭЗЕНТАЦЫЯ НАЦЫЯНАЛЬНАЙ ПАРТЫІ.** Старшынёй Вышняй рады зноў абраны Анатоль Астапенка.

○ ***НА ПРАПАНОВУ АБ'ЯДНАННЯ РАСІІ І БЕЛАРУСІ, ЯКУЮ ЗРАБІЛІ ЖЫРЫНОЎЦЫ І КАМУНІСТЫ, ГРУПА ДЭПУТАТАЎ ПІНСКАГА ГАРСАВЕТА ПРЫНЯЛА ЗВАРОТ ДА ДЗЯРЖАЎНАЙ ДУМЫ РАСІІ.** У ім гаворыцца: «Мы раім вам прыкласці ўсе свае намаганні на як можна хутчэйшае спыненне вайны ў Чэчні, як гэта робіць дэпутат вашай Думы Сяргей Кавалёў, а не займацца стварэннем новай імперы!».*

РЭХА

## Каму будзе на карысць новы Закон «Аб друку»?

*У Вярхоўным Савеце прынялі Закон «Аб друку». На думку многіх журналістаў, тут даволі жорстка рэгламентуюцца абавязкі супрацоўнікаў сродкаў масавай інфармацыі і вельмі цьмяна і мала абараняюцца іхнія правы. Не кажучы пра тое, што самымі магутнымі заснавальнікамі застаюцца органы ўлады, якія такім чынам здольныя прымушаць журналістаў скакаць пад сваю дуду, навязваць насельніцтву погляды начальства замест таго, каб даваць магчымасць уладам пачуць голас грамадскасці.*

**У.А.**

### Ці ведаем Канстытуцыю?

*«Манапалізацыя сродкаў масавай інфармацыі дзяржавай, грамадскімі аб'яднаннямі або асобнымі грамадзянамі, а таксама цэнзура не дапускаецца».*

**Артыкул 34 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь.**

## Віншуюць суродзічы з Аўстраліі

Мінуў 1994-ы год, які прынёс свету і асабліва Рэспубліцы Беларусь вельмі шмат гістарычных і важных падзей, уключаючы зацвярджэнне Асноўнага Закона — Канстытуцыі Беларусі і выбары першага Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Аляксандра Лукашэнкі! Праца Таварыства беларускай мовы працягваецца і мусіць і надалей працягвацца аж да таго часу, калі ўсе жыхары Рэспублікі Беларусь, уключаючы Прэзідэнта краіны, будуць з гордасцю ўжываць і належна шанаваць мілагучную і дзяржаўную беларускую мову. Мы ў Аўстраліі зычым Вам, усім сябрам Вашай вельмі важнай арганізацыі і ўсяму беларускаму народу здароўя, шчасця і вялікіх поспехаў у Новым, 1995-м годзе!

Няхай жыве і квітнее незалежная Рэспубліка Беларусь!!!

З павагай да ўсіх Вас

Алесь АЛЕХНІК,
Генеральны Сакратар.



**На здымку:** 7 студзеня. Вулічнае шэсце на Каляды ў Менску. Матэрыял пра свята чытайце на 7-й старонцы.

**Фота У.КАВАЛЬЧУКА.**

***ДЗЕ Ў СВЕЦЕ ЖЫВУЦЬ БЕЛАРУСЫ? Стар. 4.***

***БЫЦЬ ПАРАБКАМ ПРАСЦЕЙ, ЧЫМ ГАСПАДАРОМ. Стар. 2—3.***

**Дзе? Што?**

## *Чарговы выпуск навучэнцаў*

Значная падзея адбылася ў Гомельскай філіі БГАКЦ (дырэктар Алеся Яўсеенка) — чарговы выпуск навучэнцаў атрымаў пасведчанні аб заканчэнні вучобы. На імпрэзе прысутнічалі актывісты беларускага адраджэння Цімох Вострыкаў, Уладзімір Стрыгуцкі, барды Зміцер Бартосік, Вальжына Цярэшчанка.

**Старшыня Гомельскай гарадской Рады ТБМ В.БАШЛАКОВА.**

***«НЕ ЗГУБЛЕНЫ ДЛЯ БЕЛАРУСКАЙ КУЛЬТУРЫ». Стар. 4.***

## Рэха крытыкі?

На апошнім пасяджэнні Рэспубліканскай Рады ТБМ выступленне старшыні Магілёўскай абласной Рады ТБМ сп. Булавацкага М.П. было прысвечана неадпаведнасці кадравай палітыкі на дзяржаўным узроўні Закона аб мовах Рэспублікі Беларусь. Сярод прыкладаў такой неадпаведнасці выступоўца называў і прозвішча рэктара Магілёўскага педагагічнага інстытута Я.П.Кудрашова, «барацьбіта» за ўвядзенне двухмоўя на Беларусі.

Нядаўна рэдакцыі «Нашага слова» стала вядома, што Я.П.Кудрашоў пакінуў пасаду рэктара ў сувязі з пенсійным узростам. Кіраўніком інстытута прызначаны прафесар Аўласевіч М.А., які раней быў першым прарэктарам. Новы рэктар — кандыдат філалагічных навук, спецыяліст у расійскай мове, але няблага валодае і мовай беларускай. Праўда, за ім заўважаецца імкненне захаваць за беларускай мовай яе сучасную прарасійскую скіраванасць. Але спадзяёмся, што сёння, у час станаўлення дэмакратычнай дзяржавы, уласныя меркаванні кіраўніка аб мове (ці аб чымсьці іншым) не будуць даводзіцца да падначаленых у форме законаў для беспярэчнага выканання. Жадаем Міхаілу Аляксандравічу плённай працы на новай пасадзе і поспехаў на карысць Бацькаўшчыны.

**Л.М.**

З РЭДАКЦЫЙНАЙ ПОШТЫ

# «Ваша праца ўжо прыносіць рэальны плён»

Ад імя сяброў беларускага гуртка Жодзінскага політэхнічнага тэхнікума шчыра дзякуем рэдакцыі газеты за абуджэнне нацыянальнай свядомасці нашага шматпакутнага народа, за працу па адраджэнні яго роднай мовы. Мы бачым, як цяжка сёння несці ў свет беларускае слова, калі зрусіфікаванае чынавенства ўсяляк гэтаму замінае.

Беларускі гурток у тэхнікуме пакуль не шматлюдны. Але мы не сядзім склаўшы рукі. На жаль, наша навучальная ўстанова не беларуская, няма тут яшчэ сапраўднага беларускага духу. Не зважаючы на розныя перашкоды, мы атрымалі дазвол на выданне сваёй уласнай маленькай газеткі «Годзе!». На старонках яе рэгулярна змяшчаем артыкулы з мінулага і сучаснага Беларусі, спадзеючыся, што моладзь не застанецца абыякавай да высакародных ідэалаў Адраджэння роднай Бацькаўшчыны. На занятках гуртку́оўцы імкнуцца карыстацца дзяржаўнай мовай, каб падкрэсліць, што яна можа эфектыўна ўжывацца не толькі ў гуманітарных навуках, а і пры комплексным вывучэнні ўсіх тэхнічных дысцыплін. Пашырэнню беларускасці таксама прысвячаюцца нашы класныя гадзіны. Праўда, такія памкненні гурткоўцаў сустракаюцца ледзь не ў штыкі пераважнай большасцю рускамоўных выкладчыкаў. І ўсё ж мы бачым, як душы хлопцаў, дзяўчат абуджаюцца, пачынаюць цягнуцца да Беларусі. У гэтай святой справе нам вельмі дапамагае «Наша слова». Мы напісалі ў рэдакцыю, каб падтрымаць вас і запэўніць, што ваша праца ўжо прыносіць рэальны плён у грамадзянскім станаўленні моладзі. Поспехаў вам!

Вельмі б хацелася пазнаёміцца ў «Нашым слове» з асноўнымі правіламі беларускай граматыкі Браніслава Тарашкевіча.

**Сяржук САЛАШ, Андрусь КУЧЫНСКІ, Алег СКАТАРЭНКА і інш.**
г.Жодзіна.

***Ад рэдакцыі.*** *Журналісты «Нашага слова» з удзячнай цікавасцю прачыталі калектыўны ліст навучэнцаў Жодзінскага палітэхнікума. Прыемна, што намаганні газеты ТБМ імя Ф.Скарыны знаходзяць разуменне і водгук сярод моладзі. На нашых старонках ужо пісалася аб граматычных нормах беларускай мовы, у свой час распрацаваных Б.Тарашкевічам. Ідучы насустрач пажаданням чытачоў, мы неўзабаве плануем вярнуцца да асвятлення згаданай тэмы.*

# Растуць добрыя знаўцы мовы

Цікавасць да беларускай мовы ў вучняў Фрунзенскага раёна Менска павялічваецца з кожным годам. Аб гэтым сведчыць алімпіяда па беларускай мове, якая праходзіла 11 снежня 1994 года. Яна была падрыхтавана гарадскім аддзелам народнай адукацыі і гарадскім Інстытутам удасканалення настаўнікаў Менска. Алімпіяда ставіла сваёй мэтай выявіць вучняў, якія цікавяцца роднай мовай, ведаюць яе і змогуць праявіць сябе далей у філалогіі.

Для правядзення алімпіяды выбралі СШ № 156, дырэктарам якой працуе Кіула Валерый Іванавіч. І не выпадкова. Школа добра абсталявана. У ёй вельмі ўтульна. Цудоўныя кабінеты беларускай мовы і літаратуры. Ёсць гасцёўня. Загадвае гасцёўняй Кірык Ірына Васільеўна, якой і даручылі быць старшынёй алімпіяды. Фрунзенскае райана прадстаўляла інспектар Бурундукова Галіна Паўлаўна.

На алімпіядзе прысутнічала 130 вучняў ад дзевятых, дзесятых, адзінаццатых класаў. З прывітальным словам да яе ўдзельнікаў звярнулася завуч школы Калевіч Анна Паўлаўна.

*Алімпіяда ўключала ў сябе чатыры туры:*

першы — дыктоўка,
другі — лінгвістычны конкурс,
трэці — водгук на апавяданне,
чацвёрты — вуснае выказванне.

У гутарцы з Кірык Ірынай Васільеўнай я даведалася, што ёй было прыемна праводзіць алімпіяду па роднай мове, паколькі вучні былі добра падрыхтаваны.

**ПЕРАМОЖЦАМІ СЯРОД 9-х КЛАСАЎ СТАЛІ:**
1-е месца — Толкач Ніна, СШ № 158.
2-е месца — Валевіч Святлана, СШ № 126.
3-е месца — Міхалёва Лідзія, СШ № 140.

**СЯРОД 10-Х КЛАСАЎ:**
1-е месца — Губіч Аксана, СШ № 149.
2-е месца — Мураева Таццяна, СШ № 151.
3-е месца — Маркевіч Дзіана, СШ № 212.

**СЯРОД 11-Х КЛАСАЎ:**
1-е месца — Сердабішчава Алена, СШ № 32.
2-е месца — Скіба Наталля, СШ № 150.
3-е месца — Юрэнка Вольга, СШ № 140.

Школа — барометр грамадства. Растуць добрыя знаўцы мовы, спадчыны. Ад добрых спраў дзяцей становіцца цяплей на сэрцы, паколькі будучыня ў грамадства добрая.

**Н.АЛЬШЭЎСКАЯ,**
**кандыдат педагагічных навук.**

***Меркаванні***

# Няма іншага выбару!

***Часам можна пачуць: «Не всё ли равно, на каком языке разговаривать?» Пытанне зусім не рытарычнае. Хоць з чыста практычнага пункту гледжання беларуская мова ва ўсіх сферах жыцця, як і ўпора, у нас пакуль застаецца мовай неабавязковай. Таму і стаўленне да яе адпаведнае, не зважаючы на прыняты Закон аб мовах.***

Асобныя ж жыхары Беларусі нават па-ранейшаму агрэсіўна ўспрымаюць беларускае слова. Чамусьці лічыцца, што як толькі беларусы пачнуць размаўляць па-беларуску, то гэта нібыта справакуе ўзнікненне так званых гарачых кропак і міжнацыянальных канфліктаў. Згадваю, як адзін тутэйшы (язык проста не паварочваецца называць яго «грамадзянінам») выказаў гэтую думку Станіславу Шушкевічу, калі той пазалетась наведаў Аршанскі льнокамбінат. Спадар Шушкевіч яму адказаў: «А каму ад гэтага дрэнна, што беларусы будуць размаўляць па-беларуску?»

Неяк па радыё я пачуў дзіўнае прызнанне жанчыны, якая не аддае сваіх дзяцей у беларускую школу толькі таму, што не хоча, «каб у нас узніклі Прыднястроўе і Карабах». Вось так! Значыць, калі паспрабаваць разважаць у згаданым накірунку, то атрымаецца: размаўляй, беларус, на чужой мове і будзе ціха! Другая жанчына таксама па радыё пашкадавала свайго сына, якому, маўляў, будзе надта цяжка вывучыць родную мову. Заўважце: хлопчыку ці падлетку не патрабуецца са зброяй у руках абараняць нацыянальны суверэнітэт сваёй дзяржавы, яму трэба крыху паварушыць мазгамі, каб стаць, урэшце, нацыянальна свядомай асобай.

У прыватнай размове другі тутэйшы жыхар мне прызнаўся: «А какая мне разница, на каком языке разговаривать? Лишь бы я был накормлен». Доўга я з ім спрачаўся, даказваў неабходнасць беларусу размаўляць на сваёй роднай мове, але безвынікова.

На жаль, распаўсюджанай застаецца і думка, што незалежнасць і Адраджэнне — справы добрыя, вось толькі па-беларуску размаўляць мы ўсё роўна не збіраемся, бо і цяжка гэта ды і няма калі займацца вучобай.

А мо і праўда, «какая разница, на каком языке разговаривать»? Але як жа ў такім разе нам быць з самой назвай нашай краіны — Беларусь? Няўжо вернемся да «Северо-Западного края»? Ці возьмем яшчэ такі бок праблемы. Цікава, якімі станучь тады нашы ўзаемаадносіны з суседнімі дзяржавамі? Ці будуць, іншымі словамі, у свеце нас паважаць? Адмоўны адказ тут адназначны.

Каб нас паважалі іншыя, неабходна перш-наперш навучыцца паважаць сябе. А гэта азначае, што трэба навучыцца шанаваць сваю мову, свае нацыянальныя звычаі і традыцыі. Толькі тады мы зможам займець павагу з боку ўсяго астатняга свету. Згадайце вядомае паэтычнае выслоўе Гётэ: «Той толькі варты жыцця і свабоды, хто дзень і ноч гатовы ісці за іх у бой». Магчыма, што нехта з маіх апанентаў угледзіць тут заклікі да вайны, да абвастрэння нашых міждзяржаўных стасункаў з суседзямі. Але ж варта ўлічваць: звычайна агрэсары нападаюць на тых, хто не гатовы належным чынам пастаяць за сябе. Народы ж, якія не могуць ці не жадаюць абараніць свае нацыянальныя інтарэсы, усім ходам гісторыі прымушаюцца да служэння чужым інтарэсам. Так што пытанне «На каком языке разговаривать?» для беларусаў з'яўляецца надзвычай небяспечным і правакацыйным. Лепш за ўсё нам размаўляць на сваёй роднай мове, калі мы не хочам вайны, калі не хочам жыць у рэзервацыях ды есці мякіну. Няма іншага выбару!

**Яўген ФІЛІПОВІЧ.**

*Уладзімір ДАМАШЭВІЧ*

***Колькі разоў чуў спрэчкі і сам спрачаўся пра тое, які наш народ, якія мы самі, беларусы як нацыя, чаго мы вартыя і чаго ад нас чакаць. Чуў розныя меркаванні, але большасць схіляецца да думкі, што ў нас не такая ўжо і кепская ментальнасць, як часам нехта можа сказаць са злосці, што ў нашай натуры добрае пераважае над кепскім. Гаварылася так мо нават таму, каб не абразіць нацыянальныя пачуцці ўсіх тых, хто спрачаўся, хто быў апанентам.***

# Быць парабкам

Памятаю, як быў абураны мой швагер Віктар Кір'янаў, былы вайсковец, калі прачытаў у нататках Барыса Сачанкі пра тое, як рэзка аднойчы сказаў Янка Купала пра свой народ — што не можа ўрэшце пракарміць свайго паэта... Я спрабаваў даказаць, што Янка Купала меў на ўвазе хутчэй не народ, а ўладу. Бо калі б Купала (нават сам Купала!) сказаў нешта дрэннае пра ўладу, яго тут жа маглі б абвінаваціць у самым вялікім злачынстве і зрабіць высновы.

Аднак швагра я не пераканаў, ён застаўся сярдзітым на Янку Купалу, на Барыса Сачанку, а таксама на мяне — за тое, што мы абразілі яго, беларуса, і ўвесь беларускі народ...

Так што гаварыць рэзка на такую далікатную тэму рызыкоўна, каб не параніць сэрцы патрыётаў, якія гатовы бачыць у сваім народзе толькі адно добрае.

Аднак жа трэба мець смеласць не абыходзіць і таго, што заслугоўвае асуджэння, інакш мы ніколі не пазбудземся тых радзімых плямаў, якія нам дасталіся ў спадчыну.

Хоць, як сказаў знаёмы мне армянскі вучоны Рафік Ішханян, паўтараючы словы свайго знакамітага земляка (ці не Авеціка Ісаакяна), што дрэнных народаў не бывае, ёсць толькі дрэнная ўлада.

Ды ўсё ж такі... Апрача добрага, як працавітасць, памяркоўнасць, гасцінnасць і інш., маем мы і такое, што нас не ўпрыгожвае. Без спасылак на класікаў, я назваў бы адну з самых вялікіх заган — гэта даверлівасць, наіўная, проста дзіцячая даверлівасць да тых, хто стаіць над намі і гаворыць загадным голасам...

Фактычна — гэта даверлівасць да ўлады, да таго, хто кіруе. У гэтым сэнсе мы вельмі не падобныя да расейцаў, у якіх, як мне здаецца, у крыві сядзіць непавага да ўлады, і грунтуецца яна на тым, што гэтая ўлада вечна ашуквала, вечна рабавала, вечна не жадала дабра свайму народу, а дбала толькі пра сваю машну, мацавала і пашырала інтарэсы ўладаў.

І як ні стараўся рэжым заткнуць рот тым, хто быў асабліва яркім выразнікам ці выказнікам такога настрою, ён жыў і перадаваўся з пакалення ў пакаленне, нягледзячы на ніякія рэпрэсіі, дайшоў і да нашага часу. Мо так здарылася таму, што расейцаў шмат больш, чым іншых, што яны больш упэўненыя ў сваіх сілах, у сваёй праўдзе? Штó ў іх фактычна азіяцкі погляд на чалавека — як на пясчынку, як на травінку — распыляй, тапчы, ды нічога не зробіш, бо нас шмат, мы непераможныя. Жыццё наша — нішто, але яно невынішчальнае...

А беларусы больш цэняць сваю індывідуальнасць, яны хочуць быць самімі сабою, жыць у сваёй шкарлупіне-бране, але шлях да такое самабытнасці яны выбралі не зусім рэальны. Бо яны бароняць сваю індывідуальнасць на сваім парозе, на сваім агародзе, а трэба яе бараніць далей ад дому — ажно на дзяржаўнай мяжы. Гэта значыць, трэба будаваць сваю дзяржаўнасць, думаць пра ўсю нацыю, а не толькі пра сябе. Толькі пры такой умове нацыя зможа сябе захаваць. Інакш яна будзе асімілявана, растворыцца ў чорным моры і прападзе навечна.

Ёсць у беларусаў такая парабкоўская прымаўка, інакш яе і не назавеш: «На чыім возе сяджу, таму і песенькі пяю».

Ехаў наш беларус шмат гадоў не на сваім возе, таму і песенькі спяваў не для сябе, а для гаспадара, таго, чый быў воз. Таму і вырастаў у яго горб там, дзе ў нармальнага незалежнага чалавека — роўная спіна. Гэта трэба разумець як у прамым, так і ў пераносным сэнсе. Асабліва страшны наш горб маральны, псіхалагічны, ён перадаецца з пакалення ў пакаленне: мы не маем смеласці назваць, прызнаць сябе гаспадарамі нават тады, калі гаспадар пакінуў свой (а мо і чужы, наш?) воз і аддаў нам лейцы. І вось мы разгубіліся: ці туды едзем? А што будзе, як не туды?

Безліч пытанняў-сумненняў апаноўвае нашага няўпэўненага ў сабе фурмана, які прывык, што ім кіравалі і ў яго не пыталіся, куды ехаць. А тут раптам трэба браць на сябе смеласць і вырашаць самому...

Вось тут на поўную сілу і праявіўся сіндром залежнасці, які ў нас гадавалі стагоддзямі... Мы як тая птушка, што вырасла ў клетцы і потым нечакана вырвалася на волю: яна ўжо не можа жыць на волі, яна не ведае, што гэта такое, яна зноў, як толькі захацела есці, вяртаецца ў сваю клетку. Тое самае адбываецца сёння і з намі, беларусамі — ад самага нізу да самага высокага верху. «Мы не пражывём самі, мы не пражывём, мы не пражывём», — так і чуецца на кожным кроку.

Канечне, быць парабкам нашмат прасцей, чым гаспадаром: парабак менш думае, ён жыве сённяшнім днём — што зарабіў, тое і яго. А гаспадар павінен глядзець далёка наперад, бачыць мэту і перспектыву, вылічваць і выкіроўваць, каб гаспадарка развівалася, каб давала прыбытак, каб кожны год быў лепшы і багацейшы за мінулы. Гаспадар адказвае не толькі за гаспадарку, але і за будучыню сваіх дзяцей і ўнукаў, ён дае працу і хлеб не толькі сабе, але і шмат якім людзям. Дык хіба яго місія горшая, чым у таго парабка, які думае толькі пра сябе? Але такое місіі не кожны можа заслужыць, не кожны на яе здольны. Быць гаспадаром — адказна і ганарова, але і цяжка.

На жаль, бальшавікі шмат гадоў адвучвалі нас быць гаспадарамі, нават само слова «гаспадар» лічылася ледзь не варожым нашаму часу, як і старое беларускае слова «спадар» — форма звароту да чалавека — было выгнана з ужытку і заменена пралетарскім «таварыш». Час пакажа, якое з іх стане архаізмам.

© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012



## прасцей, чым гаспадаром

Давер да ўлады... Пэўна ж не стопрацэнтны, але ён быў, людзі проста прывыклі адчуваць над сабою прымус і сілу. Падымалі індустрыялізацыю, рабілі калектывізацыю, аддавалі сілы і жыццё на вайне з гітлераўскімі захопнікамі, аднаўлялі разбураную вайною гаспадарку... І ішлі і ехалі на вялікія будоўлі камунізму, уздымалі цалінныя і абложныя землі!

Мы на ўсё былі гатовы, мы ішлі туды, куды кіравала партыя.

І прыйшлі ў камуністычны тупік.

*І дарэмна сёння вінавацяць* у гэтым дэмакратаў. Тупік быў падрыхтаваны камуністамі. Імперыя павінна была развaліцца, бо такі лёс усіх імперый свету. І не трэба, мне здаецца, плакаць па імперыі, трэба думаць пра новыя формы жыцця, няважна, як яны будуць называцца, абы яны былі чалавечнымі, абы забяспечвалі чалавека ўсім, што трэба для нармальнага жыцця.

А як нас перайначвалі, як хацелі перарабіць на свой капыл!

Бацькі гаварылі з дзецьмі на розных мовах: бацькі — на старой, «адсталай», «дзеравенскай», дзеці — на мове «камуністычнай будучыні», на мове Леніна — Брэжнева. У гарадах ужо ў гэтым сэнсе можна было аб'яўляць камунізм — начальства ўсё гаварыла па-расейску!

Як некаторыя казалі, і зусім сур'ёзна, каб не беларускія пісьменнікі, дык ужо ніхто і не ўспомніў бы пра беларускую мову, а гэтыя пісьменнікі не маглі адолець расейскае мовы і таму так трымаліся за сваю — і цягнулі ўсю справу назад!

Вось ужо няшчасныя нацыяналісты!

Даўно іх трэба было пад корань...

Шмат было разнесена па рэспубліцы такіх вось дурных чутак і плётак, але яны траплялі на даверлівых і ачмураных бальшавіцкаю прапагандаю людзей, чуткі-плёткі падхоплівалі і пускалі далей.

Як і сёння — вераць у тое, што Зянон Пазьняк, як стане пры ўладзе, далучыць Беларусь да Польшчы, што прадасць нас амерыканцам...

Адным словам, на вярбе грушы растуць па-ранейшаму, а бальшавіцкія прапагандысты задаволена паціраюць рукі: ад Пазьняка народ адварочваецца! Мы свайго дамагліся!

Яшчэ рана святкаваць перамогу! Мне здаецца, што наш народ прыйдзе да Пазьняка, да гэтага ці да іншага, але да свайго, шчырага беларуса і патрыёта, які ніколі нікому не прадаваўся і не прадасца, бо інтарэсы беларускага народа ён ставіць вышэй за сваё жыццё, а не за нейкую там асабістую выгаду.

Мэта свядомага беларуса — незалежная Беларуская дзяржава, роўная сярод роўных, з якою аднолькава лічацца як усходнія, так і заходнія суседзі, як паўднёвыя, так і паўночныя. І калі наш першы Прэзідэнт за «свае» пяць гадоў не зможа прыйсці менавіта да такое Беларусі, дык гэтая нялёгкая, але пачэсная місія дастанецца менавіта Пазьняку. Беларусы ніяк сабе яшчэ не ўсвядомілі, што толькі мова, матчына слова, ратуе іх ад пагібелі, не дае яшчэ памерці нацыі.

Кожны шчыры беларус перажыў вялікую трагедыю і боль за свой народ, калі не так даўно была прэзідэнцкая выбарчая кампанія, калі шэсць чалавек прэтэндавалі на крэсла прэзідэнта. І з гэтых шасці толькі два чалавекі гаварылі са сваім народам на яго роднай мове, а чатыры — гаварылі на мове вялікага суседа. І не саромеліся, не чырванелі, не апраўдваліся, што паспелі забыць беларускае слова, што выракліся яго і паверылі ў «вышэйшасць» чужое мовы над сваёю, над матчынаю! Гэтым яны лішні раз паказалі, што Беларусь была калоніяй Расеі, што нічога свайго БССР не мела, як толькі знешнія атрыбуты дзяржаўнасці.

Ды не забыўся наш народ, як за роднае слова ссылалі, садзілі ў турмы і расстрэльвалі, а слова *«нацдэм» (ад «нацыянальны дэмакрат»)* было раўназначнае «ворагу народа». «Нацдэмы хочуць адарваць Беларусь ад СССР», — так гаварылі тады бальшавікі і шукалі доказаў, хоць іх і не было.

Між іншым, палохаюць гэтым пудзілам беларусаў і сёння: першы ваш вораг — Пазьняк, бо ён хоча — і г.д. Некалі царскія слугі так гаварылі пра Кастуся Каліноўскага і палохалі беларускіх сялян, што ён хоча вярнуць прыгонныя правы і адарваць «Северо-Западный край» ад Расеі. За сто гадоў з гакам мала што змянілася, бо шмат хто з беларусаў верыць у выцвілыя ад часу жупелы імперскай прапаганды.

Чаму яны такія даверлівыя, нашы людзі? Ці яны нарадзіліся такімі, ці іх так адукавалі? Хто ўвеў ім у вушы чужыя ісціны, якія сталіся для іх сваімі?

Бяда ўся ў тым, што ідэолагамі ў нас былі расейцы, яны вучылі нас усяму, што трэба лічыць сваім, а што чужым, варожым. Усё тое, што было чужым для расейцаў, лічылася чужым і для нас, беларусаў.

Калі твае погляды супадалі з вялікадзяржаўнымі, расейскімі, ты лічыўся інтэрнацыяналістам, калі ж ты хацеў даказаць нешта сваё, ды яшчэ на сваёй роднай мове, ты ўжо быў нацыяналістам. А нацыяналіст і нацдэм — гэта адно і тое ж, гэта вораг СССР, гэта і вораг БССР.

Манаполія на любоў да Беларусі была ў расейцаў, яны дыктавалі, як і колькі можна любіць беларусу сваю маці Беларусь. Спачатку трэба любіць вялікі Савецкі Саюз, а потым ужо сваю малую Беларусь. Ды і то не надта моцна выказваць свае пачуцці, бо можа дайсці да перагібаў, як у Ул.Сасюры ў вершы «Любі Украіну» ці ў нашага Максіма Танка, які таксама занадта гучна гаварыць пра сваю любоў да Беларусі.

Бяда наша яшчэ і ў тым, што ў беларусаў не засталося свядомай інтэлігенцыі, бо, пачынаючы з 1930 года і нават трохі раней, не пачалі выкарчоўваць — высылаць, саджаць і расстрэльваць. Народ фактычна застаўся без галавы, за яго сталі думаць не свае, а чужыя галовы. Тыя, хто папоўніў шэрагі інтэлігенцыі пазней, ужо не мелі той дасведчанасці, тых гістарычных ведаў і вопыту, які мелі старэйшыя нашы інтэлігенты Ігнатоўскі, Цвікевіч, Лёсік, Ластоўскі, Смоліч, браты Луцкевічы і іншыя нашы вядомыя культурныя і грамадскія дзеячы.

Сённяшняя наша інтэлігенцыя — гэта выхаванцы савецкай школы, гэта хутчэй прагматыкі, якія служылі не ідэі, а свайму дырэктару ці старшыні, каб атрымаць на пражытак прэстыжную плату і цёплы кут для сваёй сям'і. І вельмі рэдка хто асмельваўся даказваць нейкія свае ісціны, спрачацца з афіцыйнаю думкаю, якая хоць і была наскрозь фальшывая, але затое мела надзейную апору на партыю і народ.

Інтэлігенцыя была на службе ў партыі, прапагандавала яе ідэі, змагалася з крамолаю, заганяла ў нашы галовы ўсё тое, што лічыла тая патрэбным.

Партыя абалваньвала інтэлігенцыю, інтэлігенцыя абалваньвала народ. Вось чаму мы цяпер такія далёкія нават ад прапісных ісцін — што Радзіму, г.зн. Беларусь, трэба любіць, што трэба шанаваць яе мову, што трэба мацаваць яе незалежнасць, самастойнасць, што трэба ўрэшце мець сваю нацыянальную *гордасць і чалавечую годнасць*.

Дык ці вінаваты наш народ, што ён такі недасведчаны, амаль што цёмны, як сто гадоў назад, такі ж вернападданы і гатовы ісці супраць лепшых сваіх сыноў, якія гавораць яму праўду ў вочы, а ён не верыць і кажа, што гэта крыўда, а не праўда?

Не, народ не вінаваты, што яго абалванілі, што ён не разбіраецца, за кім і куды ісці. Ён амаль што слепа верыць уладзе: верыў Сталіну, потым Хрушчову, потым Брэжневу, трохі сваім мясцовым «правадырам» — Панамарэнку, Мазураву, Машэраву, Слюнькову, потым Кебічу, цяпер — Лукашэнку.

А назавіце хоць аднаго з іх (пра А.Лукашэнку гаварыць не будзем, яшчэ рана), хто не ашукаў народ па самым вялікім рахунку, хто спраўдзіў свае абяцанні перад народам, хто... Не трэба больш пералічваць, бо ўсе мы ведаем сёння, што абяцанні адно, а жыццё — зусім іншае.

Народ не вінаваты ў тым, што верыць у праўду моцнага (улады) і не прымае праўды слабага (чалавека без улады), хоць праўда яго відавочная і, здавалася б, не выклікае ніякага сумнення.

Як ні горка пра гэта гаварыць, а вінавата ў гэтым наша інтэлігенцыя — яна сама яшчэ далёка не дарасла да меркі называцца нацыянальнаю інтэлігенцыяй, бо яна залежная, як і той калгаснік, яна на службе ва ўлады: гатова рабіць усё, што ёй загадаюць. А сёння яна яшчэ і ў дадатак плача, што мы не зможам жыць незалежна, што ў нас няма энергарэсурсаў, няма таго, няма гэтага...

Але, як казаў адзін чалавек, хутчэй за ўсё ў нас дэфіцыт мазгоў...

Сапраўды, нас не навучылі жыць сваёю галавою, нас прывязвалі да баявое калясніцы савецкай імперыі, і там мы рабілі тое, што нам загадвалі — было проста і лёгка, хоць і не ўсім.

А тут раптам трэба ўсё рабіць самім, і думаць самім, і адказваць за ўсё самім. Ці не занадта шмат клопатаў зваліліся на нашу інтэлігенцыю, асабліва тую, што абслугоўвае дзяржаўны апарат, што адказвае за народную гаспадарку, за навуку і культуру, за дабрабыт народа.

Сіндром залежнасці яшчэ доўга будзе нас мучыць, няхутка мы ад яго вылечымся — мо не адно і не два пакаленні пройдзе, пакуль адчуем урэшце, што мы — незалежныя!

Але беларускую інтэлігенцыю мы будзем мець — не цяпер, дык у чацвер! — смелую, прынцыповую, дасведчаную, якая не пабаіцца адказнасці і павядзе за сабою народ да шчасця, дабрабыту, высокай палітычнай і нацыянальнай свядомасці, да разумення таго, што сам народ — гэта тая магутная аснова, на якой трымаецца ўсё, і яму, народу, і павінна служыць інтэлігенцыя, а не ўраду, які заўтра можа змяніцца ці пайсці ў адстаўку.

**Пачутае**

*Мікола КАПЫЛОВІЧ*

# Кантрактацыя

— Было гэта перад самай вайной. Прыехалі да нас ў вёску агенты з раёна весці кантрактацыю свіней. Пытаеш, што такое кантрактацыя? Гэта тое самае, што канфіскацыя. Толькі з падманам. Запісваюць, скажам, у калгасніка свінню, даюць квіток, што дзяржава на сябе бярэ абавязак праз год выплаціць пэўную грашовую суму. Але ж дзяржава і тут ніколі не выконвала сваіх абяцанак. Карацей, рабавала людзей сярод белага дня.

Ага, прыехалі, значыць, тыя агенты ў нашую Астражанку. Кантрактаваць пачалі з канца вёскі, з двара Язэпа, калгаснага каваля. У таго кабан быў. Вялікі. Кіло на дзвесце. І рабы. Апісалі. Запрасіў каваль агентаў у хату. Замачылі агенты справу, рушылі да суседа. У яго таксама закантрактавалі кабанчыка, таксама рабога... Зноў замачылі. Гэткім чынам абышлі агенты цэлую вёску. Закантрактавалі мо з дзве сотні свіней. І ўсё дзівіліся: «Чаму тут усе свінні рабыя?» «Парода такая ў нас распладзілася», — адказвалі ім астражанцы. Узрадаваліся агенты, што перавыканалі план, і давай у раён званіць: прысылайце, маўляў, машыны, свіней будзем грузіць. Але не дачакаліся іх, бо на другі дзень вайна пачалася. А калі б і прыслалі, то вярнуліся б тыя парожнімі назад. Бо, акрамя Язэпавага кабана, у нашай вёсцы не было ўжо ніводнай свінні. Усіх іх напярэдадні, каб дарэмна не аддаваць дзяржаве, ужо пакалолі. А Язэпавага кабана людзі вадзілі па вёсцы з двара ў двор. З п'яных вачэй агенты так і не разабраліся, што тут да чаго...

**Увага, конкурс!**

# Ці п'юць «каву» ў «кафе»?

Паважаныя суродзічы! Мы жывём аддалена ад Беларусі, таму як што правільна па-беларуску прамаўляць крыху, можа, пазабываліся. Але тое-сёе помнім. Ды і, дзякаваць добрым людзям, прысылаюць калі менскую прэсу. Ну і «дэмакратычны» ж у вас правапіс у газетах! Адны так, другія гэтак... Тут, у Піцеры жывучы, мы гэткага і не бачылі. Прыкладам, збяромся, бывае, на каву ў майстэрні Івана Чарнякевіча альбо вып'ем раставральнай у кавярні. Але каб адначасова «молаты кава» ды «кафэ» — крый Божа!

Дарэчы, тут у Расеі ў культурным асяродку з мовай строга сваёй, само сабою. Калі хто не валодае як след, але ж хоча тым не менш такой працай займацца, дзе трэба цвёрда ведаць хаця б правапіс, дык з яго адкрыта смяюцца. А журналістам ці там карэктарам — ніяк не станеш, калі слаба падрыхтаваны ў філалогіі. Не прынята і ўсё. А ў Беларусі цяпер як? Мы гэта пытаемся з тае нагоды, што нядаўна ў «Голасе Радзімы» (№ 45, 1994) прачыталі наступнае паведамленне з дадаткам адпаведнага фотаздымка:

«У Ашмянах пачала працаваць першая ў рэспубліцы кафейна-цыкорная фабрыка. Яна выпускае молаты кава (о!) і кавапрадукты, а таксама новыя гатункі смачных і пажыўных напіткаў на аснове кофе (о!) і дабавак з мясцовай сыравіны ў выглядзе злакаў, сушаных яблык, морквы. Прадукты фасуюцца ў прыгожую тару...»

Некалькі разоў перачыталі гэты надзвычай цікавы для аматараў філалогіі тэкст, Беларускае грамадска-культурнае таварыства ў Санкт-Пецярбургу вырашыла праз газету «Наша слова» абвясціць адкрыты конкурс.

**Умова конкурсу:** Пераканаўча растлумачыць, чаму аўтар інфармацыі гэтак напісаў?

*Варыянты адказаў:*

1. Ён не п'е кавы і не ведае, што гэта такое.
2. Ён п'е каву, але збянтэжаны тымі замежнымі словамі, якія ўбачыў на «прыгожай тары» новай ашмянскай прадукцыі.
3. У газеце ардынарны карэктарска-рэдактарскі недагляд.
4. Ваш варыянт адказу.

Для пераможцаў конкурсу прызначаны прыз — кубачак чорнай кавы (на аснове добра падсмажаных і размолатых зярнят), калі хто наведае Піцер.

А можа аплату праезду да Піцера для пераможцаў конкурсу зробіць ашмянская фабрыка з прыбыткаў ад нашай рэкламы? З гэтых жа сродкаў няхай бы дырэкцыя вылучыла сродкі, каб выканаць беларускія надпісы на пачках са сваёй смачнай прадукцыяй. Запэўніваем, гэта толькі надало б тавару дадатковую прывабнасць.

Адказы можна дасылаць у «Наша слова» альбо на адрас: Белорусское общественно-культурное товарищество, 193029, а/я 9. Санкт-Петербург, Россия.

**Ад рэдакцыі.** Цалкам падтрымліваючы прапанову нашых піцерскіх сяброў, прапануем чытачам паразважаць яшчэ пра два моманты.

1. А можа нехта знойдзе і новую не толькі прывабную, але і чыста беларускую назву для ашмянскай кавы?

2. Цяпер наконт самой назвы напою: кава ці ўсё ж кофэ, каб не блытаць яшчэ з адным цудоўным паўднёваамерыканскім напоем — какава? Бо існуюць какава-зярняты і кофэ-зярняты. У такім разе: кавярна ці кафэ і вытворны ад апошняга — кафетэрый? Гэтыя словы цяпер шырока ўжываюць не толькі прамыслоўцы, але і людзі з добрай беларускай філалагічнай падрыхтоўкай — скажам, свежы прыклад: намеснік галоўнага рэдактара «Народнай газеты», паэт і кандыдат навук Іван Макаловіч друкуе серыю рэпартажаў «Бляск і галеча Каіра» (пачатак у «НГ» № 236, 1994), дзе ўжывае слова «кафэ» нават у назве аднаго з раздзелаў свайго матэрыялу.

© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012



ВУЧЫМСЯ

ВЕДА

# Што Бог даў...

## Частка III. Века новае, а дзяжа старая

Урокі беларусаведы на тэму «Азёры» варта праводзіць ва ўсіх класах. Малодшым вучням можна чытаць паданні пра ўзнікненне азёраў, вершы ды паэмы нашых паэтаў. Дзеці напішуць пераказ ці згадаюць пра свае сустрэчы з возерам. Але не толькі на ўроках роднай мовы і літаратуры варта гаварыць пра красу нашай Радзімы.

1. Калі згадаеце назвы самых вялікіх азёр Беларусі, звярніце ўвагу, дзе яны знаходзяцца: на поўначы ці на поўдні. Славуты наш аўтар падручніка па геаграфіі — Аркадзь Смоліч — падаваў два асноўныя віды — марэнныя і палескія азёры. Паводле меркавання вучоных нашы азёры вельмі маладыя. Прыблізна 12 тысяч гадоў таму пачаў раставаць ледавік, той вадою і напоўніліся долы і лагчыны. Як мяркуеце, якія паўночныя ці паўднёвыя нашы азёры ўтварыліся найперш? (Параўнаем: *Нарач, Асвейскае, Дрысвяты, Дрывяты* і *Выганашчанскае* ды *Князь-возера*).

2. Якое з названых вышэй азёраў называюць морам? Што вы ведаеце пра іншыя нашы «моры»?

3. Вызначце, якія з пададзеных ніжэй ахоўных раслінаў жывуць толькі ў некаторых нашых азёрах: *купальнік горны, лабелія Дортмана, шпажнік балотны, палушнік азёрны, кураслеп лясны, касач бязлісты, тлушчанка звычайная, сальвінія плывучая, альдраванда пухіраватая* (паводле: «Ахоўныя расліны Беларусі». Серыя: Энцыклапедычная бібліятэка «Беларусь»), *прыбярэжнік аднакветкавы, тэтрадыніум яванікум*.

4. **Загадкі і загадкі-жарты.** а) Века новае, а дзяжа старая. **Адгадка:** возера. б) На якія расліны мухі ды камары баяцца садзіцца? **Адказ:** на *тлушчанку*, на *альдраванду*, на *расіцу*. Яны — насякомаедныя. в) У якім возеры растуць «каменныя арэхі»? **Адказ:** «Каменныя арэхі» — адна з назваў расліны *Trapa natans*, вядомай як *вадзяны арэх*. Найбольш іх у азёрах *Цёста, Рамашкаўскае, Азёрнае, Лезвінка*.

5. Нашы азёры — сапраўды «Божы дар». У іх — не толькі «каменныя арэхі», але і невычэрпны скарб. Што гэта за скарб? Адказаць на гэтае пытанне дапаможа «Энцыклапедыя прыроды Беларусі».

«...ад грэч. *sapros* 'гнілы' і *pelos* 'гліна, гразь'... утвараецца з рэштках адмерлых арганізмаў і ніжэйшых раслін, аргана-мінеральных кампанентаў з зоны вадазабору, за кошт выпадання з раствору крышталікаў солі пад уплывам выпарэння і жыццядзейнасці водных арганізмаў. Біямаса, якая асела на дно, падвяргаецца біяхімічнай і мікрабіялагічнай перапрацоўцы... У выніку фізічных, хімічных і біялагічных працэсаў... абагачаецца мінеральнымі мікра- і макраэлементамі, біялагічна актыўнымі рэчывамі, утрымвае вітаміны ($B_{12}$ 2 мг/кг сух.рэчыва, карაціну 178 мг/кг), антыбіётыкі, стымулятары росту, уключае злучэнні крэменю, кальцу, жалеза, алюміню, магнэзу, калю, серы, фосфару, медзі, нікелю, мікраэлементы (манган, малібдэн)...

Ці ж не скарб? Нездарма ім зацікавіліся некаторыя арабскія краіны. Газета «Звязда» калісь пісала нават, што мяркуецца вазіць з Арабскіх Эміратаў да нас нафту; а зваротным рэйсам танкеры павезлі б...

Дзякуй Богу, гэтага рэчыва ў нас — каля 3,6 мільярда кубічных метраў, у тым ліку ў азёрах 2,6 млрд. Прыкладам, у возеры Судабля, што ў Смалявіцкім раёне, пласт «скарбаў» — 30 метраў. Дарэчы, там здабываюць і лекавы...

6. Калі ўжо ў нашу гутарку ўбіўся таемны струмень, то варта, відаць, нагадаць і пра таямніцы.

У Добрушскім раёне, у паўночнай яго частцы, каля рэчкі Ачоса ёсць возера, пра якое А.Смоліч напісаў: «Часамі чутно, што гэтае возера быццам равець; магчыма, што гэта звязана з нейкімі карставымі з'явішчамі і што возера злучана падземнымі ходамі з недалёка ляжачаю р.Іпуцяю». Як яно называецца (Бык? Роўда? Равуч? Равучае?)?

7. **Таемнае возера.** Славуты грэчаскі гісторык Герадот у сваім «Апавядзе пра Скіфію» апісаў і паход персідскага цара Дарыя ў скіфскі край. Маршрут гэтага паходу дакладна невядомы, хоць азіяцкія і еўрапейскія даследчыкі спрабавалі даznачаць. Вывучаў Герадотавыя паведамленні і Эдуард Эйхвальд, прафесар Казанскага і Віленскага універсітэтаў, член Пецярбургскай акадэміі навук. Ён меркаваў, што Дарый дайшоў да Прыпяці. У артыкуле Э.Эйхвальда «Darius Gistaspis zieht nach der Gegend von Pinsk» згадваецца Пінскае возера.

Аматарам прыроды, краязнаўцам прапануем вызначыць, што меў на ўвазе Эйхвальд, ці давесці, што Пінскім называлася нейкае сучаснае возера. А тым нашым чытачам, хто спрабуе пісаць апавяданні і вершы, падказваем тэму.

У той час, калі Дарый «хадзіў» у Скіфію, а гэта было задоўга да Хрыстовага нараджэння, на поўдні Беларусі жылі неўры. Шмат хто з вучоных, у тым ліку і Эйхвальд, падаюць іх за славянаў. Ускосным, верагодна, доказам, што яны з цягам часу рассяліліся па ўсім нашым сучасным абшары, служаць шматлікія тапонімы і гідронімы: Нароўля, Нярopa (рака ля Бялыніч), Неўры (вёскі ля Нарачы і за Вільняй), Нараў (рака на Беласточчыне). Уявіце сабе, як яны маглі абараніцца ад магутнага персідскага войска, бо згадкі пра заняволеных неўраў Дарыем няма. Каб абудзіць вашу фантазію, раю прачытаць у кнізе Уладзіміра Караткевіча «Хрыстос прызямліўся ў Гародні» радкі пра тое, як нашы прашчуры бараніліся ад крымчакоў.

*(Заканчэнне будзе.)*

**Склаў Здзіслаў СІЦЬКА.**

# Ні сінячка, ні гузачка...

ЖЫВОЕ СЛОВА

Гісторыю гэтую пачуў у чарзе да доктара. Вельмі жвавая і з прыроды асвечаная жыццёвай мудрасцю бабулька расказвала:

— Ехалі мы неяк на машыне. Ехалі добра. Ехалі-ехалі і што? Нейкая там крэска, як цаглінка, на кружку стаяла. Кіроўца позна яе ўгледзеў... Тармазнуў, але позна. Машына ў дрэва. На пятачкі рассыпалася, шкло на друз, аскалёпкамі нас пазасыпала, крэслы пазрывала. А мы ўсе, хоць бы што, — ані драпінкі, ані злому, ні пералому, ні парэзу, ні крывінкі... Ніхто нічога не адбіў, ніхто нічога не згубіў. Ні ў кога нічога не зляцела, ні адляцела... Ні табе сінячка, ні гузачка... Калі прыехала міліцыя, дайце веры, — не паверыла. Мацалі нас і дактары і дзівіліся. От жа, ёсць нейкая сіла на свеце, што нас акрыла, атуліла, засцерагла, засланіла...

Я заслухаўся бабульчыным расповядам.

Ён быў такі квяцісты: нагадваў мне моўныя карункі ці мярэжы. І згадаў яго, вядома, не так сабе. Вам, пэўна ж, таксама неаднойчы даводзілася слухаць ці чытаць паведамленні нашай дарожнай міліцыі пра рознае і што мы часцей за ўсё ад іх чуем? Найбольш пра розныя «цялесныя пашкоджанні», якія адбываюцца «на праезджых частках».

Скажыце, няўжо ад такіх слоў вас ніколі на карочылa? Няўжо нікому з вас не хацелася падказаць усім гэтым інфарматарам: ды гавару ж па-людску, гаварыце канкрэтна. Калі здарылася аварыя, то людзі пакалечыліся, загінулі, атрымалі траўмы, адбілі пячонкі, ныркі, селязёнкі, паламалі рэбры, набілі гузакі, сінякі... Толькі не «цялесныя пашкоджанні».

Дзівішся, як у такіх інфарматараў язык не зломіцца ад гэтых «цялесных пашкоджанняў»?! Тое ж самае і пра «праезджую частку».

Беларус, для якога беларуская з'ява прыродная, звычайна скажа: «Дзеці, не гуляйце на дарозе». І гэтым усё сказана: па дарогах ездзяць, на дарогах гуляць небяспечна, не можна. Гэтак нам казалі нашыя бацькі, гэтак нашым бацькам казалі іхнія дзяды. І не інакш. Яны ніколі не казалі: «Дзеці, не гуляйце на праезджай частцы». Гэтае ліхачка да нас прыйшло з расійскім бюракратызмам. Беларус чуў ад расійскага бюракрата-экспансіянера «про езжая часть», пацішу звыкаўся з гэтым, ненатуральным для яго спалучэннем, і, пажадаўшы аднойчы вярнуцца ва ўласнае беларускае моўнае ўлонне, пайшоў ужо ад расійскага і ў яго атрымалася гэтая самая «праезджая частка» — казённае, негаваркое, калянае спалучэнне. Гэта нібы пераніцаваны рукаў. Лепшая, верхняя аснова пайшла ў ніжні слой, а ніжні, не такі эстэтычны і прывабны, выбіўся наверх.

Паміж іншым, лепшым, чуйным да слова рускамоўным журналістам ды літаратарам пазбягаюць у сваёй практыцы гэтых «телесных повреждений» ды «проезжих частей», шукаюць для гэтага простых і натуральна канкрэтных слоў. Вось колькі прыкладаў: «Не справившись с управлением двухколёсного друга, пенсионер ударился в двигающийся троллейбус и с **тяжёлыми травмами** оказался в больнице» («ВМ». 19.Х.94 г.).

То чаму ж з нашага блакітнага экрана ды радыйнага эфіру толькі і чуеш: «цялесныя пашкоджанні», ды «цялесныя пашкоджанні», «праезджая частка»? Нібыта іншых слоў няма. Ці гэта робіцца наўмысна, каб агрубіць нашу мову, зрабіць яе «неудобочитаемой» і «неудобовоспринимаемой»?!

Калі гэта так, то тады ўсё зразумела. Але спадзяюся, не ўсе журналісты без галавы, без моўнага пачуцця, моўнай чуйнасці і змогуць адрозніць моўную пачвару ад натуральнай прастаты.

Калі ж нехта захоча загаварыць жывой моваю, жывым словам, павучымся ў спадарыні Ніны Рыгораўны Шушкевіч. Гэта яна так маляўніча распавяла пра аварыю. З ёй можна пагаварыць і пра Бога, і пра розныя дзівы. Адрас яе ў нас ёсць.

**Ул.СОДАЛЬ.**

Як людзі кажуць

# «Галодны пра хлеб...»

У першым сёлетнім нумары нашай газеты мы пыталіся ў чытачоў, як правільна сказаць: «Упершыню пра Парыж» ці «Упершыню аб Парыжу (аб Парыжы)»? Наша пільная чытачка з Салігорска Вольга Пратасеня першай напісала нам: «**Парыж — назоўнік II скланення** (мужчынскі род). Нам трэба паставіць яго ў месным склоне. Такім чынам, я лічу, што трэба пісаць «Упершыню аб Парыжы», бо канчатак **-ы** пішацца ў назоўніках II скланення мужчынскага роду з асновай на шыпячы зычны ў месным склоне».

Дзякуем спадарыні Вользе за ўвагу да нашай газеты і добрае тлумачэнне існуючага граматычнага правіла. Ды ці не падаецца вам, шаноўныя чытачы, што ў гэтым дасканалым правіле не ўсё гладка?

Наша мова, як казаў яшчэ Адам Міцкевіч, дасканала распрацаваная. А вось у гэтым «аб...» — нейкая каструбаватасць. Таму і карціць запытацца, ці казалі так нашы продкі. Дык пагартаем кніжкі з запісамі жывой народнай мовы.

У «Беларускіх народных казках» знаходзім і *пра (Хлопчык і пачаў гаварыць пра матку пра сваю...)* і *аб...* Гэтаму няма чаго і дзівіцца — запісвалі казкі розныя людзі, некаторыя свядома мянялі словы: казка ж не песня, з якой слова не выкінеш. Варта пагледзець тыя народныя творы, у якіх нельга замяніць слова, бо парушыцца сэнс. Пашукаем у запісах прыказак і прымавак. Пагартаўшы, відаць, што нашы продкі ўжывалі пераважна прыназоўнік **пра**: *Каму праца служыць, той ні пра што не тужыць; Мы пра цыганку, а яна на ганку; На свята думай пра будзень, а ўлетку — пра зіму; Не пра нас кажучы; Пра каго звоняць, таго чэрці гоняць; Пра нябесныя міндалы думаць; Пра нябожчыка лепей маўчаць; Я яму пра рэч, а ён мне пра печ; Я яму пра абразы, а ён мне пра гарбузы; Што пра тое гаварыць, што не мае быць; Хто пра хату, а хто пра лапату; Хто пра што, а цыган пра сала; Раскажаш пра вераб'я, а перакажуць пра жураўля.* (Прыклады пазычаныя з «Малога руска-беларускага слоўніка прыказак, прымавак і фразем» Зміцера Санько).

І ў зборніку «Беларускія народныя прыказкі і прымаўкі» Фёдара Янкоўскага чытаем: *«Галодны — пра хлеб, а п'яны — пра хмель», «Пра адны дрожджы не гавораць тройчы», «Каб конь ведаў аб сваёй сіле, то ніхто б яго ў рукі не ўзяў».* Што да апошняй, то, здаецца, можна ўявіць, як атрымалася «аб».

У зборніку нашых прыказак, што былі сабраныя знакамітым мысліцелем XVI—XVII стагоддзяў Саламонам Рысінскім і надрукаваныя ў 1618 годзе ў Любчы па-над Нёманам, ёсць гэтая прыказка. А, як падае Я.Парэцкі, «Рысінскі чуў народную мудрасць на беларускай мове, запісваў яе на польскай і **тлумачыў на лацінскай мове**». Як вядома, у польскай мове няма прыназоўніка **пра**. Такім чынам, «*Каб конь ведаў пра сваю сілу*» было запісана з прыназоўнікам «о». Пра зборнік Рысінскага не мог не ведаць славуты збіральнік беларускага фальклору, аўтар шматтомнага «Люду беларускага» Міхал Федароўскі, які, перакладаючы, перадаў «о» праз «аб» — «аб сваёй сіле». Ф.Янкоўскі, складаючы свой зборнік, верагодна, перадаў беларускую прыказку ў польскім варыянце.

Давялося так падрабязна разглядзець гэты прыклад, бо вельмі верагодна, што падобным чынам, праз пераклады, трапіў у нашы прыказкі і прымаўкі, у казкі і легенды чужы «аб». Штучнасць, ненатуральнасць ужывання прыназоўніка «аб» бачаць і Г.У.Арашонкава і В.П.Лемцюгова, аўтары слоўніка-даведніка «Кіраванне ў беларускай і рускай мовах» (Мн., 1991). На старонцы 12-й яны напісалі: «...прыназоўнік **аб** кніжнага паходжання» (таму яго і няма ў «Слоўніку» І.І.Насовіча!), але і дадаюць: «**пра** ўносіць гутарковае адценне». Апошняе, відавочна, пад уплывам расійскай мовы, дзе «про» ва ўсіх трох значэннях (адно, як і ў беларускай: *...про своего батюшку.* Л.Толстой) лічыцца размоўным.

Але трэба ўдакладніць: гаворка — пра ўжыванне прыназоўніка **аб** замест прыназоўніка **пра**. Бо і прыназоўнік **аб** уласцівы нашай жывой і літаратурнай мове. Але з якімі — адметнымі — значэннямі! Вось як падае ТСБМ: «Аб. 1. Ужываецца пры ўказанні на прадмет, з якім хто-, што-н. збліжаецца, сутыкаецца ў працэсе руху, дзеяння. *Дождж б'ецца аб хвалі ракі.* Багдановіч. *Ледзь не шаргануўшыся аб рукаў Віктаравага шыняля, прайшоў са старшынёй Шандыбовіч.* Кулакоўскі. 3. Паказвае на прадмет харчавання. *Аб адной вадзе сыт не будзеш. Аб малаку ног не павалаку.* Прымаўкі. 4. Паказвае на адрэзак часу, у межах якога завяршаецца дзеянне. *Вярнуўся з горада аб адзін дзень. Дзяўчына аб раз не паверыла воку.* Броўка.

Шкада, што ў ТСБМ не трапіла ад Ф.Янкоўскага прыказка: «*Хоць пень аб саву, хоць саву аб пень — усё саве баліць*». Так і ў нас: *аб Парыжуці аб Парыжы* — усё на расейскі манер.

**З.С.**

ХАЧУ ВЕДАЦЬ

# «Лішнія словы»

Шаноўныя спадары!

Хочацца давядацца, што думаюць спецыялісты пра з'яву непатрэбнай дублікацыі дзеясловаў незакончанага трывання, якая, на жаль, робіцца ўсё болей відавочнай у маўленні пэўнай часткі журналістаў.

Прыкладам, ёсць пара дзеясловаў: *рыхтаваць* (незак.трыв.), *падрыхтаваць* (законч.трыв.). Дык не ж, трэба яшчэ ўсунуць нейкі «падрыхтоўваць», ярна лішні побач з гэтай натуральнай парай.

Ёсць такая ж натуральная і зручная ў маўленні пара: *шукаць* (незак.трыв.), *знайсці* (законч.трыв.). Гэта падалося мала, вынайдзены «адшукаць», «адшукваць», «адшукоўваць» — тут ужо ярна пераможцы сябе.

І такі спіс можна доўжыць далей, але досыць і згаданых узораў. Мне падаецца, што тут нейкі ўплыў разбэшчанага расійскага словаўтварэння.

**Мікола БУСЕЛ.**

© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012



*Мікалай КРЫЎКО. Алена ШЧУКА*

## СЛОЎНІК СІНОНІМАЎ

1. **ПАЯДЫ́НАК** (бой адзін на адзін паміж двума праціўнікамі) *На нейкі час іх [камбата і Андрэя] вочы сустрэліся нібы ў суровым, зацятым паядынку* (Кулакоўскі). *— Памагай! — крыкнуў Міхась збянтэжанаму Віцю, які адбегся ўбок і спалохана назіраў за паядынкам свайго звеннявога з вавучанём* (Якімовіч), **АДЗІНАБО́РСТВА** *Даўней гэта выглядала так. Сустракаліся два варожыя станы. Асілкі скрыжоўвалі зброю, а ворагі тым часам, гледзячы з двух бакоў на адзінаборства, набіраліся злосці, каб рынуцца ў крывавы бой* (Брыль). *На раскошным пераплёце чорнай фарбай і золатам быў паказан чалавек у адзінаборстве з тыграм* (Гарбук).

2. **ПАЯДЫ́НАК** ( узброенае сутыкненне дзвюх асоб па выкліку адной з іх на загадзя вызначаных умовах) *Тут калісь у начной цішы Сышліся два на паядынак* (Гурло). *Паэт [А.Пушкін] у паядынку Змог выжыць на зямлі...* (Аўрамчык). **ДУЭ́ЛЬ** *— Калі б гэта было сто гадоў таму назад, — сказаў Міхась, — я на месцы Андрэя выклікаў бы Івана Барысаглебава на дуэль* (Шахавец). *Вялікі паэт выклікаў на дуэль паклёпніка і загінуў ад рукі наёмнага забойцы Дантэса* (Матрунёнак).

3. **ПАЯДЫ́НАК** (пра бітву, барацьбу, спаборніцтва двух праціўнікаў або пра два бакі, якія варагуюць, спаборнічаюць, спрачаюцца і пад., пра барацьбу чалавека, жывёл з прыроднымі і фізічнымі з'явамі, з якой-н. сілай, стыхіяй і пад.) *Харошка быў перакананы, што людзі чакаюць з дня на дзень зыходу магутнага паядынку паміж партызанамі і фашыстамі* (Кавалёў). *Паядынак гусляра і князя — гэта паядынак сумлення і крывадушша, праўды і маны, непакорнасці і гвалту* (Шкраба). *Вастрыня сітуацый і публіцыстычнасць п'есы «Разбуральнікі» прыцягнулі ўвагу гледача, які з захапленнем глядзеў на паядынак двух светаў — старога і новага* (Есакоў). *Лепшыя спартыўныя збудаванні беларускай сталіцы сталі месцам цікавых паядынкаў* («Звязда»), **АДЗІНАБО́РСТВА** *Высачыць, акружыць і разьбіць банду — нялёгкая справа, але яшчэ больш небяспечна было адзінаборства з бандытамі* (Жураў). *Адзінаборства жанчын з лесам патрабавала ад іх сілы* (Васілевіч). *Ці яны [коні] выбіліся з сіл, ці плынь там была такая імклівая, але яны не вытрымалі адзінаборства з Дняпром* (Няхай). *Крытычныя гадзіны стамляючага адзінаборства са сном прамінулі* (Шынклер), **ДУЭ́ЛЬ** *Цікава, чым скончыцца гэта слоўная дуэль?* (Харкевіч). *Бацька і дачка глядзелі на немца з нянавісцю.. Гэтая зрокавая дуэль цягнулася доўга* (Шамякін).

**ПАЯЎЛЯ́ЦЦА** (бываць дзе-н., у каго-н., наведваць якое-н. месца, грамадскі калектыў) *У маленькім завулку, у асабняку, ніжні паверх якога ўжо занялі ваенныя, у Верыней кватэры паяўляліся часам нязнаёмыя людзі* (Мікуліч). *Гадзіне а сёмай на пляжы паяўлялася Надзейка* (Паслядовіч), **З'ЯЎЛЯ́ЦЦА** *Час ад часу заходзіў [Максім] у далёкія вёскі. З'яўляўся нават у Дзісне з пушнінай* (Машара). *Віззнер лічыў, што гэтых мер дастаткова, каб у яго раёне партызаны больш не з'яўляліся* (Шамякін), **ПАКА́ЗВАЦЦА** *Вяскоўцы нашы ў Дальніх лясах хаваліся. У вёску ніхто не паказваўся* (Кавалёў). *Мінула некалькі дзён, мінуў тыдзень, а Калінка не паказваўся на ферме* (Пятроў). *— Закончанае трыванне:* **Паявіцца, з'явіцца, паказа́цца**.

**ПАЯ́ЦЬ** (што і без дапаўнення; злучаць металічныя часткі чаго-н. пры дапамозе расплаўленага металу — прыпою) *Чым ён [Міша] толькі не займаўся! Маляваў партрэты. Паяў каструлі, рабіў дэтэктарныя прыёмнікі* (Карпюк). *Казачэнка і Сяргей паялі, Алёша нешта абмотваў ізаляцыйнай лентай, а дзяжурны электрык падпільваў ля акна, у цісках, нейкую металічную пласцінку* (Шамякін), **ЛІТАВА́ЦЬ** устарэлае.

**ПЕЙЗА́Ж** (агульны выгляд навакольнай прыроды, мясцовасці) *Парадзеў, рассунуўся цяжкі і сляпы змрок, выпускаючы з свае няволі тонкія празрыстыя абрысы зімняга пейзажу* (Колас). *А над усім гэтым панурым, невясёлым пейзажам такое ж шэрае невыразнае неба* (Ігнаценка), **КРАЯВІ́Д** *Праз гэтыя акенцы вачам адкрываецца шырокі краявід палёў, акаймаваных лесам, а там далей паблісквае — калі сінню, калі залацістым россыпам — серадзіборскае возера* (Пестрак). *Было хмарна, імжыла, вада ў рацэ нібы набрыняла свінцом, але маляўнічасць прырэчных краявідаў і ў восеньскім убранні не traціла свайго хараства* (Хадкевіч), **ЛАНДША́ФТ** *Месяц быў поўны, чырвоны, на яго паверхні чарнелі абрысы далёкага таямнічага ландшафту* (Лупсякоў). *Хоць ландшафт з цягам часу змяніўся, дуброву высеклі, рэчка прабіла сабе прамейшае рэчышча і вёска аказалася збоку.. — назвы паселішчаў захаваліся і да нашага часу* (Рапановіч), **ВІД** *Я не знаю, чым мне дораг Від палёў благенькіх* (Колас). *Крушынскі пачаў любавацца відам горада з высокага месца* (Бядуля) // (карціна або малюнак, якія адлюстроўваюць прыроду) *Асабліва спадабаліся пейзажы Бялыніцкага-Бірулі, простыя, недзе бачаныя ў жыцці* (Карпаў). *— Хто-небудзь купляе? — запытаўся Мікола, паказваючы на розныя танныя нацюрморты і пейзажы* (Якімовіч). *Альбом адкрыецца.. краявідамі роднай старонкі* («Полымя»). *На сцяне вісеў вельмі дарагі дыван з цудоўна вытканым альпійскім краявідам* (Даніленка). *Намаляваць азёрны ландшафт. Чакаючы, пакуль прыйдуць мае знаёмыя, я разглядаў альбом з відамі Касабланкі* (В.Вольскі). *— Параўнайце:* 2. **Від**.

**Пейзаж**. Адпаведнае гняздо блізкіх паміж сабою сінонімаў у англійскай мове: **scenery**, **landscape**, **view**, **scene**. Варта адзначыць адразу, што ўсе адзінкі ў ім — запазычанні з розных моваў.

**Scenery** бліжэй іншых да беларускага **пейзаж**, **краявід**. **Scene** падразумявае больш абмежаваную прастору вакол вас. **View** можна параўнаць у першую чаргу з беларускім **від**. **Landscape** больш адпавядае беларускаму **ландшафт**. Варта звярнуць увагу на супадзенне першай часткі (land) у абодвух словах. Трэба дадаць, што менавіта гэты сінонім можа ўжывацца ў сэнсе 'карціна або малюнак, якія адлюстроўваюць прыроду'.

**ПЕ́КАР** (рабочы, які займаецца выпечкай хлеба) *[Сцяпан:] — Чаго панікаваць? Іншы раз і ў пекара са стала хлеб зводзіцца* (Гроднеў). *Ты, пекар, сюды дакладзі пах свежага даваеннага хлеба, якім шчэ і сёння пахнуць увесь ты павінны* (Сіпакоў), **ХЛЕБАПЁК** *Устане рана хлебапёк, Адчуе смачны пах, І пойдзе жытні свежы хлеб З румянцам на шчаках* (Агняцвет).

## БЕЛАРУСКАЯ МОВА — МОВА НАВУКІ

*Васіль БЕРНІК, прафесар, Павел МІХАЙЛАЎ, загадчык кафедры беларускай мовы МДПУ, Адольф НАВУМОВІЧ, дацэнт БДзУ, Зміцер САНЬКО, кандыдат біялагічных навук, Тамара СУХАЯ, дацэнт Політэхнічнай акадэміі, Рэгіна ТЫШКЕВІЧ, прафесар БДзУ, Людміла ШЛОМА, дацэнт Беларускага універсітэта інфарматыкі і радыёэлектронікі*

# ТЭРМІНАЛАГІЧНЫЯ ПРАБЛЕМЫ БЕЛАРУСКАЙ МАТЭМАТЫЧНАЙ ЭНЦЫКЛАПЕДЫІ

*(Заканчэнне.)*

Аналіз расійскай тэрміналогіі паказаў яе недасканаласць і ў сферы ўжывання суфіксаў.

1. Характэрная якасць матэматычнага аб'екта ў расійскай мове перадаецца рознымі суфіксамі: *-ем-*, *-ющ-*, *-им-* (дифференцируемая функция, убывающая функция, разрешимая задача). Суфікс *-ем-* даволі мнагазначны, і без кантэксту цяжка зразумець, што азначае выраз «определяемый объект» (аб'ект, якому ў дадзены момант даюць дэфініцыю, ці аб'ект, які адшукваюць, знаходзяць). Суфікс *-ющ-* выкарыстоўваецца ў расійскай тэрміналогіі як для характарыстыкі неадлучнай якасці аб'екта (возрастающая функция), так і для наймення суб'екта ўздзеяння (нормирующий множитель). Алагізм і непаслядоўнасць выкарыстання суфіксаў у расійскай матэматычнай тэрміналогіі выключаюць магчымасць механічнага перакладу гэтай лексікі на нашу мову і вымушаюць шукаць іншыя падыходы. Да таго ж дзеепрыметнікі з *-ом-*, *-ем-*, *-уч-*, *-юч-*, *-ач-*, *-яч-* — граматычныя стараславянізмы — не характэрныя для беларускай літаратурнай мовы. Праблема развязана наступным чынам. Прапанавана выкарыстоўваць суфікс *-льн-* (як эквівалент суфікса *-able-* — у англійскай тэрміналогіі) для перадачы якаснай характарыстыкі аб'екта (*нарастальная функцыя*, *дыферэнцавальная функцыя*, *развязальная задача*); *-н-* пераважна для характарыстыкі аб'екта ўздзеяння (вращаемый — *аваротны*, интерполируемый — *інтэрпаляваны*, комбинируемый — *камбінаваны*, отображаемый — *адлюстраваны*); *-оўн-* для наймення суб'екта ўздзеяння (нормирующий — *нармоўны*, интегрирующий — *інтэгроўны*). Гэта дазволіла пабудаваць сістэму матэматычных тэрмінаў, якая мае сваё лагічнае абгрунтаванне.

2. Словаўтваральнае афармленне дзеясловаў і дзеяслоўных формаў з суфіксамі *-ірав-*, *-ырав-* лічым недапушчальным, бо гэтыя пазычаныя суфіксы не характэрныя для беларускай мовы. У матэматычнай (як і ў іншай навуковай тэрміналогіі) ёсць усе магчымасці пазбавіцца іх, у выніку чаго слова становіцца больш кароткім і гарманічным: дифференцировать — *дыферэнцаваць;* группировать — *групаваць;* интегрировать — *інтэграваць*, аппроксимировать — *апраксімаваць*.

3. Выкарыстанне суфіксаў *-ав-* (*-ов-*, *-ев-*) замест суфікса *-н-* дае магчымасць захаваць нязменнай аснову слова, ад якога ўтвораны прыметнік, і тым самым забяспечыць матывацыю семантыкі такога прыметніка. Прапануецца: *«выбаркавы, сеткавы, блокавы, ступеневы»* замест адпаведна «выбарачны, сетачны, блочны, ступенны».

4. Формы вытворных прыметнікаў з суфіксам *-н-* (замест пазычаных з англійскай мовы *-альн-*, *-яльн-*, *-ільн-*) зусім натуральныя для беларускай мовы, яны выразна матывуюцца, лёгка вымаўляюцца і мілагучныя: биномиальный — *бінОМНЫ* (ад біном); полиномиальный — *паліномны* (ад паліном); синусоидальный — *сінусоідны* (ад сінусоіда); функциональный — *функцыйны* (ад функцыя); пропорциональный — *прапарцыйны* (ад прапорцыя).

5. Словы з суфіксам *-цель* не маюць распаўсюджання ў беларускай мове. Замест гэтага чужога словаўтваральнага сродку выкарыстоўваюцца адпаведнікі з суфіксамі *-нік-*, *-льнік-*, *-ач-*, *-ец-*, *-ца* ды іншыя: делитель — *дзельнік*, определитель — *вызначнік*, показатель — *паказнік*.

6. Словы, якія ў лацінскай мове маюць фіналь -ium-, у расійскай набываюць элемент *-ий-*. Але беларускай мове *-ій-*, *-ый-* — як фінальсуфікс ці фіналь-канчатак неўласцівыя. Параўнаем, да прыкладу, уласныя імёны: Анатоль, Васіль, Валер, Рыгор — у беларусаў ды Анатолий, Василий, Валерий, Григорий — у расійцаў. Таму аналагічныя пазычанні ў якасці тэрмінаў мы прапануем ужываць без фіналяў: крытэр, каментар і да т.п.

Часам з расійскай мовы ў беларускую неабгрунтавана пераносяцца некаторыя прыстаўкі: уравнение — ураўненне, удвоенный — удвоены, переменная — пераменная, распознавание — распазнаванне, замест натуральнага беларускага *«раўнанне, падвоены, зменная, пазнаванне»*. Пра тэрмін «раўнанне» варта сказаць больш падрабязна. У беларускай матэматычнай тэрміналогіі ён мае доўгую гісторыю, яго ўжыванне зафіксавана ў тэрміналагічных слоўніках і даведніках агульнаўжывальнай лексікі 20-х гадоў, а таксама ў даваенных падручніках. Тэрмін жа «ўраўненне» ўпершыню зафіксаваны ў сумна вядомым русіфікатарскім «Руска-беларускім слоўніку» 1937 года пад рэдакцыяй А.Александровіча. Тэрмін «раўнанне» ўзнікае натуральна, як і ва ўсіх еўрапейскіх мовах (equal — *equation;* gleich — *die Gleichung*; рівний — *рівняння*), і толькі ў расійскай мове дадаецца прыстаўка: «равный — уравнение».

Свайго аналізу патрабавалі і канчаткі. Імкнучыся да мілагучнасці, прапануем у родным склоне множнага ліку ўжываць канчаткі *-аў*, *-яў* (замест расійскага адпаведніка *-ей*). Для назоўнікаў жаночага роду з нулявым канчаткам аддаецца перавага канчатку *-яў(-аў)*, калі гэты канчатак не націскны, г.зн.: плоскасцяў, імавернасцяў, паслядоўнасцяў. Канчатак *-аў(-яў)* мы скарыстоўваем таксама ў двухскладовых словах; у словах, дзе без яго адбываецца збег дзвюх зычных на канцы; у тых словах, дзе без яго націск падаў бы на апошні склад: мераў, алгебраў, каардынатаў (але «функцый, аперацый»). Афіцыйная граматыка дапус-кае такую варыянтнасць кан-чаткаў.

У якасці прынцыповых момантаў, якіх прытрымліваюцца сябры рэдкалегіі, нагадаем яшчэ два. Аўтары выходзяць з таго, што беларуская практычная транскрыпцыя іншамоўных імёнаў не павінна паўтараць і тым больш кансерваваць непаслядоўнасць і нелагічнасць расійскай практычнай транскрыпцыі. Уласныя імёны замежных навукоўцаў прапануецца перадаваць з максімальным набліжэннем да гучання ў мове той нацыі, якой належыць асоба (Ляйбніц, Лягранж, Крамэр, Лёпіталь, Ваерштрас, Ойлер). Перадача іх у адпаведнасці з мовай-пасрэдніцай (расійскай) прыводзіць да падвоеных скажэнняў. Паколькі вымаўленню літары θ (тэта) у словах грэцкага паходжання найбліжэй адпавядае гук [т], прапануецца: *арытметыка, лагарытм, апатэма* і інш. Дарэчы, і ў расійскай тэрміналогіі апошнім часам формы з ф, якое паходзіць ад грэцкай θ, выцясняюцца формамі з т, да прыкладу «алгоритм» замест «алгорифм».

У сучасны момант тэрмінатворчай дзейнасці фактычна сутыкнуліся два процілеглыя метадалагічныя прынцыпы:

1) пераважнае калькаванне і запазычанне навуковых тэрмінаў з рускай мовы;

2) пераважнае выкарыстанне моўных сродкаў беларускай мовы.

Актыўны працэс русіфікацыі, які зліквідаваў беларускую мову як сродак навучання ў сферы адукацыі, а таксама сфармаванне расійскамоўных кадраў у многіх галінах навукі і тэхнікі прадвызначаюць сённяшняе панаванне першага з названых метадалагічных прынцыпаў. Аднак такі шлях не ўзбагачае і не развівае беларускую мову, а таму не можа быць магістральным пры ўтварэнні спецыяльных тэрмінаў. Беларуская мова мае дастатковыя ўласныя сродкі — багаты лексічны запас, развітую граматычную сістэму — для стварэння паўнацэннай навуковай і тэхнічнай тэрміналогіі.

© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012



*Вам, школьнікі!*

***Рубрыку вядзе Лявон БАРШЧЭЎСКІ***

# Сусветная літаратура ў школе

### VIII клас

## Мігель дэ Сервантэс Саавэдра

(1547—1616)

***Вялікі іспанскі пісьменнік-гуманіст эпохі «трагічнага» Адраджэння Мігель дэ Сервантэс Саавэдра (Miguel de Cervantes Saavedra) нарадзіўся ў сям'і вандроўнага хірурга ў гарадку Алькада дэ Энарэс. Ёсць звесткі, што ён наведваў езуіцкую школу ў Севільі, а пасля, у 1568—1569 гадах, вывучаў гуманітарныя навукі ў Мадрыдзе. З 1570 года служыў у іспанскім палку, размешчаным у Італіі; быў паранены ў бітве каля Лепанта (1571). У час вяртання на радзіму, у 1575 годзе, быў захоплены ў палон мусульманскімі піратамі і вывезены ў няволю ў Алжыр. Толькі праз пяць гадоў ён быў выкуплены з няволі.***

***Неўзабаве пачалася яго літаратурная дзейнасць. Сервантэс — аўтар папулярнай у свой час драмы «Нумансія» (1584), шэрага іншых буйных і малых драматычных твораў («Інтэрмедыі», «Стары раўнівец», «Адважны гішпанец», «Лабірынт кахання» і інш.), «Павучальных навел» (1613). Сусветную вядомасць яму прынёс раман «Хітрамудры ідальга Дон Кіхот Ламанчаскі», напісаны ў 1605—1615 гадах. Памёр Сервантэс у Мадрыдзе.***

***Скарочаны пераклад «Дон Кіхота» на беларускую мову выходзіў два разы, у 1935 і 1940 гг.***

Літаратура:


Лапин И.Л. Сервантес // Ковалёва Т.В., Лапин И.Л., Паньков Н.А. Литература средних веков и Возрождения. — Мн., 1988. — С.165—172.

Флорэс-Фернандэс Х.-М. Аўтар неўмiручага «Дон Кіхота» // ЛіМ. — 1966. — 22 красавіка.

Каган Л.В. Мигель де Сервантес Сааведра // Зарубежная литература. Пособие для факультативных занятий в старших классах средней школы. — М., 1972. — С.61—65.

Державин К.Н. Сервантес: Жизнь и творчество. — М., 1957.

Duran M. Cervantes. — N.Y., 1947.


# Хітрамудры ідальга Дон Кіхот Ламанчаскі

*(урыўкі)*

Раздзел I

У адным сяле ў Ла Манчы, назву якога ў мяне няма ахвоты ўспамінаць, не так ужо і даўно, жыў адзін з тых ідальга, чыя маёмасць складаецца з дзіды, старога шчыта, дохлай каняжкі і харта. Ольяⁱ⁾, часцей з ялавічыны, чым з бараніны, вінегрэт амаль кожны вечар, яешня з салатай па суботах, сачавіца па пятніцах ды смажаны голуб, як дадатак да звычайнай стравы па нядзелях — усё гэта паглынала тры чвэрці ягоных даходаў. Астатняе ішло на блузку з тонкага сукна, аксамітныя штаны, панчохі і пантофлі з той жа матэрыі, буднімі днямі ён насіў камізэльку з болей тонкага сукна. У доме пры ім жылі ахмістрыня, гадоў так пад сорак, пляменніца, якой не было і дваццаці, а таксама прыслужнік па дому і для работы ў полі, які добра мог управіцца і з канём і з садовым інструментам. Узрост нашага ідальга набліжаўся да пяцідзесяці гадоў, быў ён даволі моцнага складу, сухарэбры, хударлявы з твару, вялікі аматар уставаць на світанку і заўзяты паляўнічы. Кажуць, што прозвішча ягонае было Кіхада ці Кесада (тут аўтары, якія пісалі пра яго, разыходзяцца ў думках), але згодна з досыць праўдападобнымі меркаваннямі можна сказаць, што прозвішча ягонае было Кіхана. Аднак для нашага апавядання гэта не мае аніякага значэння, галоўнае, каб у гэтай гісторыі мы ні на драбок не адхіляліся ад праўды.

Трэба ведаць, што вышэйпамянёны ідальга ў вольны час (а час гэты ў яго быў амаль увесь год) аддаваўся чытанню рыцарскіх кніжак, ды з такім задавальненнем і захапленнем, што забыўся і на паляванне і нават на сваю гаспадарку, ды так далёка зайшлі гэтыя цікаўнасць і вар'яцтва, што ён прадаў некалькі фанегаў ворнай зямлі, каб накупіць ягэч рыцарскіх раманаў, і гэткім чынам нацягаў дадому такіх кніжак гэтулькі, колькі змог дастаць, болей жа за ўсё ён любіў чытаць тыя, што напісаў славуты Фелісіяна дэ Сільва, бо ягоная проза падавалася нашаму ідальга ўзорнай і непараўнальнай, асабліва калі размова ішла пра любоўныя пасланні або выклікі на двубой; у якіх амаль заўсёды пісалася так: «Разумнасць вашай неразумнасці на маё разуменне, так знясільвае мой розум, што з поўным разуменнем я прыношу скаргу на вашу павабнасць...» Альбо калі чытаў такое: «Высокія нябёсы, якія з дапамогай зорак свяшчэнна ўмацоўваюць вашу свяшчэннасць, робяць вас вартай тых высокіх вартасцяў, якіх сапраўды варта ваша веліч».

Бедны кабальера не спаў начамі і так старанна ламаў галаву, імкнучыся дакапацца да сэнсу падобных выразаў, што глузды ў яго крыху паехалі, а што да сэнсу, дык да яго не дакапаўся б і сам Арыстотэль, нават калі б ён толькі дзеля таго ўваскрос. Не ўсё ўсхвалялася з ранамі, якія атрымліваў і наносіў дон Бельяніс, бо наш кабальера лічыў, што, якія б добрыя лекары ні лячылі героя, усё ягонае цела і твар павінны быць у шнарах і адмецінах. Аднак ён ухваляў аўтара за тое, што гэтая даўжэзная гісторыя заканчвалася абяцаннем прадоўжыць апісанне бясконцых прыгодаў, часам у яго ўзнікала жаданне самому ўзяцца за пяро і дапісаць канец, як абяцаў аўтар, і ён абавязкова зрабіў бы гэта, калі б яму не заміналі іншыя, болей важныя і штодзённыя думы. Шмат разоў у яго былі спрэчкі з мясцовым патэрам (а ён атрымаў ступень доктара ў Сігуэнсе) аб тым, які рыцар лепшы — Пальмерын Ангельскі або Амадзіс Гальскі, а маэсэ Нікалас, цырульнік з таго ж сяла, сцвярджаў, што ніводзін з іх не зраўняецца з Рыцарам Феба, можа, толькі дон Галаор, брат Амадзіса Гальскага, бо гэта хлопец хоць куды, не пыхлівец, не плакса, як ягоны брат, ды і ў зухаватасці брату не саступіць. Словам, ён так пагрузіўся ў чытанне, што чытаў з рання да ночы і з начы да рання, ад таго мазгі ў яго пачалі высыхаць, і бедны кабальера канчаткова звар'яцеў. Ён забраў у галаву ўсё, што вычытаў у кнігах: пра чарадзейства, сваркі, бітвы, выклікі на двубой, раны, заляцанні так моцна, што лічыў усю гэтую неверагодную лухту адзінай на свеце праўдай. Ён казаў, што Сід Руй Дыяс быў вельмі добры рыцар, але нікуды не варты ў параўнанні з Рыцарам Палымянага Мяча, які адным ударам рассек напалам двух крыважэрных веліканаў. Трохі лепей ён ставіўся да Бернарда дэль Карпія, бо той задушыў рукамі ў Рансевальскай цясніне зачараванага Раланда, быццам Геркулес Антэя, сына Зямлі. Шмат чаго добрага ён гаварыў пра веліканa Марганта, які адзіны вызначаўся сярод усёй гэтай жахлівай і нахабнай веліканскай пароды сваёю ветлівасцю і выхаваннем. Але болей ад усіх ён любіў Рэйнальда дэ Мантальбана, асабліва калі той, выехаўшы са свайго замка, брацыя рабаваць усіх, хто толькі трапляўся яму на дарозе, а калі апынуўся ў заморскай краіне, то ўкраў адтуль стод Магамета, увесь залаты, як даводзіў аўтар. А каб адлупіць як след здрадніка Фалапона, ён аддаў бы сваю ахмістрыню ды і пляменніцу ў дадатак. У выніку, канчаткова звар'яцелы, ён прыйшоў да такой высновы, якая ніколі і ніводнаму вар'яту на свеце не прыходзіла ў галаву, але нашаму герою яна падалася слушнай і пераканаўчай, бо вырашыў ён як дзеля ўласнай славы, так і на карысць дзяржаве, стаць вандроўным рыцарам і ездзіць на кані па свету са сваёй зброяй, шукаючы прыгодаў і займаючыся тым, чым займаліся ўсе вандроўныя рыцары ў кнігах: знішчаць несправядлівасці і ў змаганні з рознымі небяспекамі і выпадковасцямі заваяваць сабе вечную славу і бессмяротнае імя. Небарака ўжо бачыў сябе каранаваным за смеласць і сілу, па меншай меры, каронай Трапезундскай імперыі, і з гэтымі прыемнымі думкамі, якія прыносілі яму дзівосную асалоду, ён паспяшаўся здзейсніць усё тое, чаго так жадаў. А таму першым чынам ён пачысціў старыя даспехі, якія дасталіся яму ад прадзедаў і доўгія гады ляжалі закінутыя ў кут, пакрытыя іржой і цвіллю. Як мага лепей ён вычысціў іх і даваў да ладу, але тут выявіўся вялікі недахоп, бо замест шлема з забралам была толькі простая жалезная каска, але і гэтую цяжкасць наш ідальга пераадолеў з уласцівай яму мудрасцю: змайстраваў з кардону паўшлема з забралам, прымацаваў да каскі і атрымалася нешта накшталт шлема з забралам. Праўда, калі, пажадаўшы выпрабаваць моц і трываласць свайго вырабу, ён нанёс забралу ўдар мячом, яно разляцелася на кавалкі адразу ж, і такім чынам, праца цэлага тыдня аказалася марнай, што, вядома, ніякага задавальнення яму не прынесла, а каб пазбегнуць падобнай небяспекі ў далейшым, ён зрабіў новае забрала, умацаваўшы яго ўнутры пласцінамі жалеза, застаўся вельмі задаволены яго трываласцю і новае выпрабаванне рабіць не стаў, а прызнаў свой выраб сапраўдным шлемам вельмі тонкай работы. Затым ён адправіўся пагледзець на свайго каня, і хаця той кульгаў на ўсе чатыры нагі і меў заганаў болей, чым конь Ганелы, а той быў, як вядома, толькі скура ды косці, палічыў, што ні Аляксандраў Буцэфал, ні Сідаў Баб'ека з ягоным канём раўняцца не могуць.

*(Працяг будзе.)*

1) Олья — пахлёбка.

# «Калядкі-95»

*Стала добрай традыцыяй ладзіць у сталіцы рэспублікі, а дакладней на філфаку БДУ, вясёлыя і яскравыя фестывалі фальклорных калектываў, мэта якіх — адраджаць жывы, аўтэнтычны фальклор (песню, абрад, танец, музыку) і папулярызаваць у масах народнае мастацтва. Ужо сам факт з'яўлення на працягу апошніх гадоў шматлікіх творчых гуртоў і ансамбляў, для якіх характэрны высокі ўзровень выканаўчай культуры і ўсведамленне сваёй гістарычнай ролі ў грамадстве, сведчыць аб тым, што беларускі народ адраджаецца, адраджаецца яго мова, культура, гісторыя і нацыянальная свядомасць. Апошнім часам фестывалі майстроў сцэны не абмяжоўваюцца сценамі канцэртных залаў, а праводзяцца пад адкрытым небам, на вачах у тысяч людзей. Фальклорныя фестывалі, якія ладзяцца ў БДУ, пасля паказальных выступленняў і звязаных з імі ўрачыстасцей, таксама выплёскваюцца на вуліцу, ператвараючыся ў масавае свята і відовішча. Так адбылося і на гэты раз, калі праходзіў фестываль фальклорных ансамбляў, прысвечаны Калядам, на якім вёў рэй, як і заўжды, вучоны-фалькларыст, прэзідэнт Асацыяцыі фалькларыстаў Беларусі сп.Васіль Ліцвінка.*

Такім чынам, добрая традыцыя працягваецца: «Вялікдзень-94» прадоўжыўся «Калядамі-95». У фестывалі ўдзельнічала 8 фальклорных гуртоў, у тым ліку два дзіцячыя калектывы.

Гэта гурты Асацыяцыі фалькларыстаў Беларусі («**Кола**» і «**Квецень**», мастацкія кіраўнікі А.Буйневіч і М.Котаў): тэатра радыётэхнічнага коледжа «**Дзіва**» (мастацкі кіраўнік І.Кірчук); гурт пры Аддзеле адукацыі Цэнтральнага раёна г.Менска «**Кірмаш**» (мастацкі кіраўнік І.Сінкевіч); гурт Беларускага тэхналагічнага універсітэта «**Рунь**» (мастацкі кіраўнік Г.Чапінская); гурт пры Асацыяцыі фалькларыстаў Беларусі «**Дзянніца**» (мастацкі кіраўнік І.Міронава); калектыў з Гародні «**Дударыкі**» (мастацкі кіраўнік Я.Петрашэвіч); фальклорны калектыў Менскага вучылішча мастацтваў «**Батлейка**» (мастацкі кіраўнік І.Кірчук).

У ліку ганаровых гасцей, афіцыйных асоб і членаў журы прысутнічалі Марыя Цімар з Германіі, якая ўзначальвае дабрачынную суполку сяброў дзяцей Беларусі; Бернард Дадзье з Францыі, бізнесмен у галіне турызму, дзякуючы якому нашы фальклорныя ансамблі маюць магчымасць дэманстраваць сваё майстэрства за мяжой; Тадэвуш Стружэцкі, начальнік Аддзела народнай творчасці Міністэрства культуры і друку; фундатар Асацыяцыі фалькларыстаў, старшыня партыі «Беларускі хрысціянска-дэмакратычны выбар», пісьменнік Валерый Сарока; дэкан філалагічнага факультэта БДУ, членкарэспандэнт АН Беларусі Алег Лойка і іншыя.

У сваіх выступленнях госці павіншавалі творчыя калектывы і ўсіх прысутных у зале з Новым, 1995 годам, і пажадалі росквіту і дабрабыту нашай суверэннай дзяржаве.

Пані Марыя Цімар выказала захапленне прафесійным майстэрствам фальклорных гуртоў і шчыра пашкадавала, што дагэтуль ведала ўсяго адзін з іх — «Рунь», на 10-гадовы юбілей якога яна і прыехала.

Пан Бернард Дадзье выказаў радасць з нагоды, што прысутнічае «на такім цудоўным фальклорным свяце, якое паяднала сваім мастацтвам людзей усіх узростаў».

Спадар Сарока падарыў творчым калектывам сваю чарговую кнігу "Тагільская бездань" з серыі пра судовую Віцебскую справу, адзначыўшы, што яна «пра чалавека, яго лёс і сутнасць». Ад спадара Ліцвінкі артысты атрымалі яго аўтарскія працы: выданне «Песні і строі Піншчыны» і «Каляндар свят і абрадаў беларусаў», надрукаваны, дарэчы, у «Нашым слове».

Т.Стружэцкаму выпала прыемная місія ўзнагароджваць лепшыя гурты грашовымі прэміямі і Ганаровымі дыпломамі.

Былі ўзнагароджаны:

гурт «Рунь» — за лепшую калядную праграму і ў сувязі з 10-гадовым юбілеем:

гурт "Дзянніца" — за высокі ўзровень падгалосачнай і спеўнай культуры;

гурт "Кірмаш" — за артыстычнасць выканання;

гурты Асацыяцыі фалькларыстаў — за высокае мастацкае інструментальнае суправаджэнне беларускіх народных песень, танцаў;

гурт «Дзіва» — за лепшую тэатралізаваную праграму.

Ганаровым дыпломам быў узнагароджаны і галоўны ініцыятар гэтага свята Васіль Ліцвінка.

А 7 студзеня, на Каляды, фальклорнае свята паўтарылася ў парку імя Янкі Купалы. Акрамя згаданых калектываў, у ім удзельнічалі гурт "Весялухі" з Менска і ансамбль «Крынічанька» з Рудзенска Пухавіцкага раёна. На добрым марозіку і некалькі гадзін запар артысты гралі і спявалі, а захопленая публіка, са шчырым запалам і першароднай радасцю ў сэрцы, забыўшыся на штодзённыя клопаты і нястачы, спявала і скакала «да ўпаду» разам з артыстамі.

**Ірына КРЭНЬ.**

© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012



## У СВЕЦЕ КРАСЫ



*Васіль Рагаўцоў*

### І гавораць месяцы...

Студзень студзіць вокны, дзверы
подыхам мяцеліц.
Завывае люты зверам —
аж дрыжыць аселіца.

Сакавік — з гаючым сокам,
з сонечнаю ласкай.
Красавік... І на ўзлобках
зацвітаюць краскі.

Луг вітае першатравы.
Травень... Час маёвы.
Чэрвень пчол выводзіць спраўна
на папас мядовы.

Хмеліць пахам размаітым
ліпень — аж нясцерпна.
Жнівень жне шчымліва жыта
месяцавым серпам.

Паліць верасень кастры
сінню верасовай.
З павуціння тчэ кастрычнік
дываны шаўковыя.

Лістапад... І ліст мядзяны —
водсвет зараніцы.
Снежань гоіць беллю раны
змоглае зямліцы.

## І СМЕХ І ГРЭХ

*Браніслаў ЦРНЧАВІЧ*

### Дастатак

Людзі набіраюць шмат доказаў таго, што дастатак расце. І я згодзен, што расце. Хоць не збіраюся даказваць гэта ўсур'ёз, але магу пацвердзіць са свайго пункту гледжання.

Як?

А вось так.

ДОКАЗ 1. У вітрыне бліжэйшай мясной крамы, запоўненай ягнячымі сцёгнамі, з'явілася цыдулка: «Жывёла ёсць».

ДОКАЗ 2. Многія дзяўчаты хораша ўбіраюцца і калышуць сцёгнамі. Для мяне доказ — тое, што калышуць.

ДОКАЗ 3. Колькасць шлягераў расце. Людзі, якія спяваюць абы-што, не маюць клопатаў.

ДОКАЗ 4. Павелічэнне колькасці разводаў сведчыць, што мужчына, які можа забяспечваць дзяцей на двух баках, пэўна ж, зарабляе на трэцім.

ДОКАЗ 5. Вялікая колькасць параўнальна маладых людзей ахвотна ідзе на пенсію. Калі ж добра маладым пенсіянерам, што казаць пра старых!

ДОКАЗ 6. Выраз «Ты асёл» перастаў ужывацца. Асёл — істота, якая працуе выключна дзеля іншых.

ДОКАЗ 7. Бачыў жанчыну, якая ў пальчатках кіравала «Б'юікам». Адкуль у яе, прабачце, пальчаткі?

ДОКАЗ 8. Сталяры займаюцца абортамі — у адносінах да звычайных крэслаў і стымулююць нараджэнне мяккіх, блізнятак. Кожнае мяккае крэсла мае свайго ўласніка, а кожны ўласнік мае сваё мяккае крэсла.

ДОКАЗ 9. Усё больш людзей сядзіць па рэстаранах. Для мяне доказ — тое, што сядзіць.

ДОКАЗ 10. Жыллёвы крызіс. Усе людзі жадалі б мець свае кватэры. Колькасць жадаючых расце. А гэты рост — паказчык дастатку.

ДОКАЗ 11. Расце колькасць людзей, якія заяўляюць: «Я табе пакажу!»

ДОКАЗ 12. Усё больш і больш на дарогах сутыкаюцца аўтамабілі, а ўсё меней пешаходы.

Забабоны не дазваляюць, вядома, прывесці трынаццаты доказ. А гуляць у збор доказаў можна бясконца, але пры ўмове, што ўсе прывядуць іх у колькасці ад аднаго да дванаццаці.

*З сербскахарвацкай пераклаў Іван ЧАРОТА.*

### Пачутае «У Лявона»

* * *

Яўрэй піша пісьмо брату ў Ізраіль: «У нас усё такое дарагое. Простая курыца — 10 тысяч рублёў».

Яўрэя выклікаюць у КДБ і папярэджваюць, што калі ён будзе пісаць такія пісьмы, то няхай крыўдуе на самога сябе.

Спалоханы, ён вяртаецца дадому і піша брату: «У нас райскае жыццё. Іду па Камароўцы, бачу — вялізны слон за 4 тысячы рублёў. Навошта, думаю, мне слон, лепш дадам 3 тысячы і куплю курыцу».

* * *

— Мой муж так прастудзіўся!

— Скажыце яму, каб ён больш піў і адпачываў.

— Ах, доктар, калі гэта дапамагае, я ўвогуле не разумею, як ён ухітрыўся прастудзіцца.

* * *

— Як спадабалася вам гераіня спектакля?

— Выдатная артыстка, але, памойму, велікаватае дэкальтэ.

— І гэта вас раздражняла?

— Мяне — не, аднак мая жонка ўвесь спектакль адымала ў мяне тэатральны бінокль...

* * *

У Міколы, у якога хварэла жонка, спыталі:

— Як здароўе вашай жонкі?

— Дзякую, зараз адчувае сябе значна лепш: ужо і лаяцца памаленьку пачынае...

## З міфалогіі беларусаў

# Пра кадука, але...

У адным з нумароў «Нашага слова» згадалі пра незразумелае для нас слова *кадук*, а фалькларыстка Лія Салавей расшыфравала яго сэнс, адзначыўшы, што, зыходзячы з народнай міфалогіі, вобраз гэтай істоты нагадвае капу зялёнага сена ці моху. Выходзіць, калі народ так выразна акрэсліў вобраз нейкай незямной істоты, то нехта ж бачыў.

Савецкая атэістычная ідэалогія скіроўвала нас глядзець на народную міфалогію, як на праявы непісьменства, невуцтва, цемрашальства продкаў. Маўляў, жылі ў курных хатах пры лучыне, расказвалі на ноч казкі, вось і бачылі здань.

А калі згадаць аналагічны выпадак з сучаснага жыцця, калі такую істоту мог убачыць малады чалавек у панельнай гарадской хаце, які да таго ж ніколі не чуў слова «кадук», а дзяцінства прайшло з казкай на экране тэлевізара, тады мы, відаць, інакш павінны паставіцца да міфалогіі народа, дапусціўшы магчымасць праяўлення існавання істот іншага свету.

Бачылі і ў нашы дні «кадука» вось так. Унук, якому было два гады і два месяцы, падышоў да бабулі і на сваёй мове сказаў: «Бабуля, бум-бум». Бабуля ўраз зразумела і села за фартэпіяна, пачала на яго вечку выстукваць «бум-бум». Унук пад гэтую мелодыю любіў пускацца ў скокі, а яны таксама былі свае — насіўся ад адной да другой сцяны, а яны, адна ад другой — два метры з гакам. Лятаючы, ён раптам павярнуў галоўку ў бок, дзе стаяла шафа, а за ёй канапа, і на твары адбілася здзіўленне, але, не затрымліваючыся, паляцеў уперад. Летучы другі раз у гэтым напрамку, ён спыніўся, падышоў бліжэй да канапы і стаў глядзець угору за шафу, потым падняў правую ручку ўверх і трыма пальчыкамі стаў варушыць над галоўкай, нібы нешта ашчупваючы. Бабуля без перапынку выбівала «бум-бум», хоць зразумела, што ён бачыць нейкую здань, а потым уголас пачала прасіць скакаць далей. Унук нехаця адарваўся і паляцеў да сцяны, лятаючы, ён больш не глядзеў у той бок.

Позна вечарам з інстытута вярнулася дачка, маці ёй нічога не сказала, а раніцой усе спалі, калі яна пайшла на работу. Прыйшла з работы, толькі пераступіла парог, а дачка кажа: «Мама, якую здань я сёння бачыла ў 12 гадзін дня». І пачала расказваць: пазваніла сяброўка, што скора прыйдзе, і дачка пачала хуценька прыбіраць стол на кухні. Раптам яна адчула — нехта зайшоў у хату. Перш, што падумалася — дзверы не былі замкнёнымі, і Наташа без званка зайшла. Калі яна глянула на залу з кухні, то ўбачыла каля шафы зялёную капу сена, а на версе штосьці блішчэла і тырчэла ва ўсе бакі, як салома на жытнёвым мэндлі. Нейкі момант абое спужана глядзелі адзін на аднаго і ў думках дачка сказала: «Мы ведаем, што вы існуеце, але вы для нас надта страшныя, ідзіце!» Істота знікла. Малы ў гэты момант стаяў на падаконніку, глядзеў праз акно, дзе дзеці на пагорку гулялі.

У міфалогіі адзначаецца, што «кадук» крадзе ці хавае. Менавіта да гэтага мае дачыненне і народная прымаўка: «Вот схавала, днём са свечкай не знайшла». Для нас яе сэнс трошкі дзіўны. Навошта ж днём пры святле запальваць яшчэ свечку? Аказваецца, у тых выпадках, калі немагчыма нешта ў хаце знайсці, запальвалі свечку і тады абавязкова згубу знаходзілі, пры гэтым найчасцей у тых месцах, куды ніколі не паклаў бы.

Такім чынам, адмаўляючы міфалогію свайго народа, забыўшыся на мову, страціўшы сэнс слоў, мы становімся людзьмі спужанымі, дарэмна ідзём да лекараў, а ў дадатак і безабароннымі, не ведаем, як сябе паводзіць, бараніць, нездарма ж некалі раз у год, на Каляды, свянцілі хаты, ведалі, калі запальваць свечкі, гарэлі лампадкі. У наш час, працуючы над праблемай адраджэння беларускай нацыянальнай культуры, варта глянуць на міфалогію, як на крыніцу, што сведчыць аб існаванні свету іншага вымярэння.

**Марыя ЖАБІНСКАЯ.**

## Пародыі

*Вінцук АСЬЦЮК*

### Бізнесмену давядзецца сканаць!

*Я цябе не раўную,*
*Я адзін, быццам бомж.*
*.................................*
*Ты балюеш у бары*
*З бізнесменам старым...*
*Аднаму мне вядома,*
*Як ты ўмееш кахаць...*
*Бізнесмену старому*
*Век таго не спазнаць.*

**Зм.Марозаў.**

Ты балюеш у бары
З бізнесменам старым.
Вы далярная пара,
Вы паедзеце ў Рым.

Я цябе не раўную,
Я адзін, быццам бомж.
Без цябе я хіпую
І нашу з сабой нож.

На мінулай нядзелі
Мы балдзелі з табой
На пуховай пасцелі
І было ой-ёй-ёй!

Аднаму мне вядома,
Як ты ўмееш кахаць.
Бізнесмену старому
Давядзецца сканаць!

*Эхінопсіс ВУЛЬГАРЫС*

### Дзве дзюркі ў носе

*Не ведаю, навошта я пішу...*
*.......................................*
*На самым дне глухой душы*
*Шукае слова змоў і згукаў*
*Са светам...*
*Так у гладышы*
*Зумчыць зняволеная муха.*
*.......................................*
*Змушае мяне ўспамінаць з асалодай*
*Таўсматую Маню за тоўстай калодай.*
*.......................................*
*Прыйшлі выпадковыя словы*
*і тлумачаць мне сэнс жыцця.*

**Л.Галубовіч.**

Раяцца мухі каля рота —
Ну хіба смачна пазяхнеш?
Пісаць мне вершы неахвота,
А калі так — не выйдзе верш!
Хыў-хэў... А кыш, каб вы падохлі!

Не норкі гэта! Ноздры, нос!
Запавуцеў і сцвіў, стаў вогкі
Мех пісаніны, што я нёс.
Хыў-хэў... У рот-такі папала,
Звініць, бы ў збане-гладышы,
І дзванілася, дапяла
Да глуханемае душы.
Тфу, поскудзь! Выплюнуў я муху...
Нарэшце будзе што пісаць!
Як соладка было таўстуху
Мне за калодкай абдымаць!
Згадаю бузіну пад плотам
І дзядзьку — ў Кіеве жыве...
Было пісаць мне неахвота,
І мне было не ў галаве,
Ці выйдзе нешта з пісаніны.
Цяпер жа ўведаў: будзе сэнс!
Зляплю пазму-асяніну,
Я не паэт, я — экстрасенс!
Абскубці муху я гатовы
І ножкі, крылцы палічыць.
Сапселы час дыктуе словы,
Якімі буду вас лячыць.

Заснавальнік: ТБМ імя Ф.Скарыны.

АДРАС РЭДАКЦЫІ:

220029, г.Менск, вул.Чычэрына, 1

РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ:
Эрнэст Ялугін — галоўны рэдактар, Лявон Баршчэўскі, Янка Брыль, Анатоль Бутэвіч, Вінцук Вячорка, Віктар Гайсёнак, Радзім Гарэцкі, Ніл Гілевіч, Аляксей Глушко, Сяргей Запрудскі, Анатоль Клышка, Уладзімір Лемеka, Зміцер Санько, Яўген Цумараў, Генадзь Цыхун, Віктар Шніп — адказны сакратар.

Аўтары надрукаваных матэрыялаў адказваюць за дакладнасць фактаў і іншых звестак. Пункт гледжання аўтара можа не адпавядаць меркаванню рэдакцыі. Рукапісаў рэдакцыя не рэцэнзуе і назад не вяртае.

Індэкс 63865. Замова 5

Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку». 220041, г.Менск, пр.Ф.Скарыны, 79.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
Наклад 6696 паасобнікаў.
Падпісана ў друк 30.01.1995 г. у 15 гадзін.

© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012